# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 9(92) Верасень 2001 September Год выд. 9.


# Разам мы пераможам

***Рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты прайшла ў Палацы Рэспублікі. Былі зарэгістраваныя 4 кандыдаты ў прэзідэнты: адзіны кандыдат ад шырокай грамадзянскай кааліцыі, старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык, лідэр аб'яднання «Рэгіянальная Беларусь» Сямён Домаш, старшыня ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч і цяперашні кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка.***

На выхадзе кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў сустракалі больш за 100 чалавек з вялікімі букетамі кветак. Разам з імі павіншаваць Ганчарыка і Домаша з уручэннем кандыдацкіх пасведчанняў прыйшлі іхнія калегі па «пяцёрцы» Павел Казлоўскі, Міхаіл Чыгір, Сяргей Калякін, а таксама Міхаіл Марыніч і Аляксандр Ярашук.

Што датычыць самога паседжання, то яно прайшло дастаткова спакойна. На ўрачыстым мерапрыемстве прысутнічалі вышэйшыя службовыя асобы Беларусі — прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын, старшыні абедзвюх палатаў «парламента» Вадзім Папоў і Аляксандр Вайтовіч, старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілеўскі, старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Уладзімір Бойка, старшыня Вярхоўнага суда Валянцін Сукала, кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі М. Мясніковіч.

Апроч іх, у зале прысутнічалі старшыні абласных, раённых і гарадскіх выбарчых камісіяў. Сярод прысутных былі і кіраўнікі ініцыятыўных групаў усіх чатырох кандыдатаў у прэзідэнты.

Як паказала праверка сапраўднасці подпісаў, сабраных у падтрымку кандыдатаў, прызнаныя сапраўднымі ў Уладзіміра Ганчарыка 121.041 подпісаў, Сямёна Домаша – 160.077. Праверка дадзеных дэкларацыяў аб даходах кандыдатаў і іхніх сваякоў таксама не выявіла сур'ёзных парушэнняў.

Праблемы зьявіліся толькі ў Сяргея Гайдукевіча: апроч указанага ім сына Алега, у яго быў яшчэ адзін не ўказаны – Васіль. Аднак, як высветлілася падчас праверкі, Васіль дастаткова працяглы час жыве на тэрыторыі Германіі разам з былой жонкаю С.Гайдукевіча, і таму гэтакі факт не быў улічаны камісіяй сур'ёзнаю перашкодаю для рэгістрацыі кандыдата.

Пэўныя складанасці ўзніклі і ў Уладзіміра Ганчарыка з дэкларацыяй аб даходах ягонай дачкі. Аднак іх таксама палічылі неістотнымі. Сямён Домаш і Аляксандр Лукашэнка былі зарэгістраваныя бесперашкодна.

Падчас запланаваных па рэгламенце выступаў кандыдатаў Уладзімір Ганчарык адзначыў, што «нарэшце ў беларускага народа зьявіўся выбар». Ён таксама падзякаваў людзям, якія аказалі яму падтрымку і давер.

Аляксандр Лукашэнка не хаваў свайго раздражнення. Гэта, верагодна, выклікана тым, што ён меў жаданне, напэўна, выступаць у якасці адзінага кандыдата ў прэзідэнты. Ягоная горыч павялічвалася яшчэ і тым, што прозвішчы ўсіх кандыдатаў аб'яўляліся ў строга алфавітным парадку, і ён нязменна цягнуўся ў самым канцы спісу.

У сваёй прамове цяперашні кіраўнік дзяржавы імкнуўся прытрымлівацца напісанага на паперцы, што, зрэшты, яму ўдавалася не вельмі добра. Аднойчы ён адарваў вочы ад тэксту і аб'явіў, што «выборы президента в Республике Беларусь по иностранным шпаргалкам не пройдут».

Калі яго выклікалі на подыум, ён дэманстратыўна адмовіўся паціснуць рукі Уладзіміру Ганчарыку і Сямёну Домашу і абмежаваўся толькі лёгкім паціскannем з Сяргеем Гайдукевічам. (Н. С.)

<><><><><><><><><><><><><>



**Спадар Уладзімер ГАНЧАРЫК —**

**адзіны кандыдат ад шырокай грамадзянска-дэмакратычнай кааліцыі гатовы пачаць змаганьне за пасаду Прэзыдэнта Беларусі.**

**Жадаем посьпехаў і перамогі!**

## Дэмакратычныя сілы за адзінага кандыдата

Пяты Кангрэс дэмакратычных сілаў, які праходзіў 18 жніўня ў Мінску, выказаў поўную падтрымку адзінаму кандыдату ў прэзідэнты Уладзіміру Ганчарыку.

Вынікі 5-га Кангрэса былі абсалютна прадказальнымі, таму нават не спатрэ білася прымаць ніякіх спецыяльных пастановаў або рэзалюцыяў. Пасля таго, як 867 дэлегатаў — прадстаўнікоў дэма кратычных рэгіянальных аб'яднанняў — аднагалосна падтрымалі адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі, Уладзімір Ганчарык выступіў з прамовай. «Я веру, што разам — нават у гэтых умовах, — мы пераможам. І разам мы пабудуем новую Беларусь. Няхай заўсёды гучыць «Жыве Беларусь!», — заявіў адзіны кандыдат.

Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай запатрабаваў ад Аляксандра Лукашэнкі публічных тэледэбатаў, а таксама стварэння незалежнай камісіі па расследаванні злачыннай дзейнасці «эскадронаў смерці». 17 жніўня Цэнтрвыбаркам адмовіў адзінаму кандыдату даць прамы эфір на тэлебачанні.

У сваім выступе У.Ганчарык адзначыў, што «вертыкаль» будзе рабіць усё магчымае і немагчымае, каб не дапусціць перамогі дэмакратычнага кандыдата. Ужо ёсць звесткі, што выканаўчая ўлада атрымала загад забяспечыць у часе датэрміновага галасавання 30% выбаршчыкаў — замест устаноўленай планкі ў 5-7%. За каго яны «прагаласуюць» — тлумачыць не трэба. У звязку з такімі пагрозамі адзіны кандыдат заклікаў чыноўнікаў устрымацца ад фальсіфікацыяў і правакацыяў.

Ужо цяпер дзеянні ўладаў выклікаюць у дэмакратычнай грамадскасці ўсё большую занепакоенасць. Днямі, па словах У.Ганчарыка, пад Слонімам прайшлі спецыяльныя вучэнні, у якіх удзельнічалі спецпадраздзяленні МУС і КДБ — яны праводзілі сумесную рэпетыцыю разгону дэманстрантаў. «З кім хоча ваяваць Лукашэнка: з беларускім народам?» — паставіў пытанне адзіны кандыдат у прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі.

Выхад на трыбуну другога зарэгістраванага кандыдата Сямёна Домаша зала сустракала апладысментамі і стоячы. Сямён Домаш пацвердзіў, што ён здыме сваю кандыдатуру — гэта мусіць адбыцца ў часе тэлевізійнага выступлення Сямёна Домаша па Беларускім тэлебачанні 21 жніўня з 19.00 да 19.30.

«Дэмакратычныя сілы ўжо вылучылі адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары – Уладзіміра Ганчарыка. Ён годны кандыдат на пасаду прэзідэнта Беларусі. Яму і людзям з ягонай каманды баліць сэрца за нашую краіну. Гэта рэальная альтэрнатыва сённяшняму рэжыму Лукашэнкі».

Былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір паведаміў кангрэсу, што ўлады зараз рыхтуюць правакацыі, скіраваныя непасрэдна супраць патэнцыйных кандыдатаў У. Ганчарыка і С. Домаша. Па неправеранай інфармацыі, вядуцца здымкі

(далей на наступнай старонцы)

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

фільма, у якім вельмі падобныя на кандыдатаў артысты паўстануць перад тэлегледачамі ў надзвычай «непатрэбным выглядзе». Хутчэй за ўсё, стужка будзе круціцца па БТ.




Па звестках У.Ганчарыка, правакацыі могуць мець і іншыя формы. Напрыклад, бліжэйшым часам на Беларускім тэлебачанні могуць з'явіцца ролікі, у якіх выбаршчыкам нібыта ад імя дэмакратычнага кандыдата раздаюцца грошы — такім чынам людзям у галовы будзе ўбівацца думка, што апазіцыя купляе галасы выбаршчыкаў. Чакаецца таксама павелічэнне накладаў дзяржаўных газет, запланаванае на 28 жніўня, — за два тыдні да выбараў. Па словах адзінага кандыдата, наклад «Советской Белоруссии» складзе ў гэты дзень 1 мільён асобнікаў, газеты "Звязда" — 400 тысяч.

У. Ганчарык лічыць, што галоўная мэта кангрэсу дасягнутая: «Галоўная задача — каб у гэтых цяжкіх, вельмі цяжкіх умовах пры часавым абмежаванні трэба выйграць прэзідэнцкія выбары. Каб дасягнуць гэтага, трэба найбольш моцна працаваць з выбаршчыкамі ў рэгіёнах. Я думаю, у пэўнай ступені кангрэс вырашыў гэтую задачу», — сказаў адзіны кандыдат.

Уладзімір Ганчарык не назваў пэўнай даты, калі ў прэсу будзе выкінутая чарговая хваля кампрамату на цяперашнія ўлады — пра існаванне ў Беларусі «эскадронаў смерці». «Я думаю, да выбараў пэўна нешта з'явіцца», — заявіў Уладзімір Ганчарык. (Наша Свабода)

## СЯМЁН ДОМАШ ЗЬНЯЎ СВАЮ КАНДЫДАТУРУ НА КАРЫСЬЦЬ УЛАДЗІМЕРА ГАНЧАРЫКА

***Кандыдат у прэзыдэнты Беларусі, лідэр аб'яднаньня "Рэгіянальная Беларусь" Сямён Домаш падпісаў сёньня заяву аб тым, што ён здымае сваю кандыдатуру на карысьць адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімера Ганчарыка. Такім чынам Сямён Домаш выканаў усе раней абамоўленыя з Уладзімерам Ганчарыкам дамоўленысьці.***

***Ганчарык у сваю чаргу падпісаў заяву, у якой просіць Цэнтрвыбаркам прызначыць Сямёна Домаша яго паверанай асобай. Пасьля падпісаньня гэтых дакумэнтаў адзіны кандыдат у прэзыдэнты абняў Сямёна Домаша й паведаміў, што той паступіў "мужна ня толькі як грамадзянін і палітык, але і як мужчына". На дадзены момант Сямён Домаш перадае ў ЦВК заяву пра тое, што ён здымае сваю кандыдатуру на карысьць Уладзімера Ганчарыка…***

# Праграмны выступ кандыдата ў прэзыдэнты Сямёна Домаша

Шаноўныя грамадзяне, 9 верасьня Вы будзеце вырашаць: ці жыць як жывем, ці мы ўсё ж такі будзем жыць па-новаму.
Вынік нашага сямігадовага жыцьця.
Да чаго мы прыйшлі? Ці пра гэта мы марылі сем гадоў таму, калі выбіралі дэмакратычным шляхам першага прэзыдэнта сваёй краіны?
Магчыма, ня ўсім спадабаецца тое, што я скажу, але я ўсё роўна гэта скажу: **нас усіх зрабілі дурнямі.**

Сем гадоў таму на гэтым месцы перад Вамі сядзеў другі чалавек. Памятаеце, што ён абяцаў?
Моладзі ён абяцаў пэрспэктывы, старым — кампэнсацыю спаленых зберажэньняў тэлевізарамі, халадзільнікамі і машынамі, высокія, годныя пэнсіі. Працоўным – запусціць заводы, задушыць інфляцыю. Ён абяцаў знішчыць карупцыю, адправіць – я гэта памятаю добра – хабарнікаў самалётам у Гімалаі.

А што атрымалася?

Сёння ў Беларусі, пэўна, ужо трэба не адзін самалёт, каб вывезці ўсіх тых, хто бярэ хабар, і ўсіх казнакрадаў, таму што ўсе яны знаходзяцца пад адной «*крышай*» – неабмежаванай уладай аднаго чалавека, якому служаць. Злачынцамі ж аб'яўляюць, зыходзячы з палітычнай мэтазгоднасьці.

Наш народ быў яшчэ раз абдураны ў 1996 годзе. Атрымліваецца, мы ўсе прагаласавалі за тое, каб мясцовых кіраўнікоў мы не выбіралі, а нам прызначалі; больш таго, атрымліваецца, мы з вамі ўсе разам вырашылі, што ў нашай краіне можна кажа, што анічога пра гэта ня ведае. стварацъ

Газета «Новые Известия» неяк назвала суму: 2 млрд. 200 млн. долараў – гэта па 2.200 на кожнага жыхара Беларусі з улікам немаўлятаў. нікім не кантраляваны так званы прэзыдэнцкі фонд – колькі там грошай, ня ведае ніхто. Нават міністр фінансаў разводзіць рукамі.

Дзе гэтыя грошы?

Гэта што – мы з Вамі прагаласавалі за тое, каб адзін чалавек схаваў іх ад нас і мог, калі захоча, пакласьці сабе іх у кішэню ці выкарыстаць іх так, як яму спадабаецца!

Дык за якіх жа дурняў ён лічыць нас з Вамі!

І як апошняя кропка – зьнікненне людзей, вядомых палітыкаў: Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, аператара расійскага тэлебачаньня Завадзкага – і гэта ў ціхай, талерантнай Беларусі… Паглядзіце ў вочы іхнім жонкам, маці, дзецям, паслухайце, што яны Вам скажуць.

Пры гэтым – поўнае маўчаньне ўлады.

Дакладней, яна адказала: калі ў недзяржаўнай прэсе зьявіліся матэрыялы аб існаваньні «эскадронаў сьмерці», замест расьследаваньня і тлумачэньня, пачаўся наезд на тых людзей, хто гэта агучыў.

Як быў праў Васіль Быкаў, калі казаў, што кожная дыктатура ў рэшце рэшт канчае забаронай на жыцьцё людзей – у цяперашнім беларускім варыянце гэта забарона на наша з вамі жыцьцё.
У нас ужо скрадзены сем гадоў, а гэта дзясятая частка чалавечага жыцьця – і жадаюць скрасьці яшчэ як мінімум пяць.

Спытайце ў сваіх дзяцей, у сваіх унукаў, ці згодныя яны з такой доляй?

Адказ зразумелы – мы ўсе яго ведаем. Адсюль вынікае, што мы павінны зьмяніць сітуацыю. Але шмат хто кажа: «Что я могу сделать? Я маленький человек…» Аднак ужо сёньня добра вядома, што нас, нязгодных з гэтым рэжымам, больш за 70 працэнтаў. І *што* – мы ўсе маленькія людзі?

Я скажу вам: не бывае маленькіх людзей – бываюць маленькія мэты.

Давайце паставім перад сабою вялікую мэту – і мы станем вялікім народам, які жыве ў годнай краіне.

А зараз аб самым галоўным.

Аб вашым выбары. Аб тым, што трэба рабіць, каб перамагчы.

Перамагчы мы можам толькі тады, калі будзем разам.

Памятаеце, нас, апазыцыйных палітыкаў, даўно папракалі, што няма паміж намі адзінства, што мы ня здольныя дамовіцца з-за сваіх амбіцыяў, што мы марнуем час і аддаляем перамогу – вашу перамогу, нашу перамогу. І шчыра кажучы, нас усіх правільна папракалі.

Зыходзячы з гэтага, я вырашыў, што калі дасягненьне згоды паміж намі будзе залежаць ад мяне, я зраблю ўсё, каб гэта адбылося.
Лічу, што палітык павінен быць цьвёрдым, але не цьвердалобым. Ён павінен мець здольнасьць ісьці на кампраміс дзеля агульнай мэты.

І сёньня я магу сказаць, што ў нас гэта атрымалася. Мы падпісалі пагадненьне. У адпаведнасьці з дамоўленасьцямі я выканаю абяцаньне і здыму сваю кандыдатуру на карысьць Уладзіміра Іванавіча Ганчарыка.

Да нашага пагадненьня далучыліся вядучыя, найбольш уплывовыя партыі Беларусі ад левых да правых. Пагадненьне падпісалі таксама шэраг грамадзкіх арганізацый і беларуская моладзь.

Зараз вы ўсе зьяўляецеся сьведкамі, якую адмоўную рэакцыю гэта выклікала ва ўладаў. У чым толькі нас ні абвінавачваюць. У спробе перавароту і парушэньні Канстытуцыі, у тым, што ўсё гэта хочам зрабіць мы самі, без народа.

Хачу ўсім ім адказаць на зразумелай для іх мове: «Ребята, не наводите тень на плетень. Кто вам сказал, что все преобразования мы будем делать, не советуясь с народом и не вместе с ним? И почему вы думаете, что наш народ не желает изменений – к лучшему? И где вы вычитали, что мы сразу же, как придём к власти, всех заставим разговаривать на белорусском языке. Лучше вместо своего словоблудия отдайте это эфирное время нам, чтобы мы в прямом эфире разъяснили людям, что и как мы собираемся делать. А ещё лучше в прямой дискуссии».

Шаноўныя сябры!

Я вельмі хачу, каб Вы ўсе зразумелі – не мы апазыцыя, мы разам з Вамі, мы такія ж, як і Вы.

Сёньня Лукашэнка знаходзіцца ў апазыцыі да беларускага народу, які чакае лепшага жыцьця.

І я ўпэўнены, што 9 верасьня Вы, дарагія суайчыньнікі, гэта падцьвердзіце, аддаўшы свой голас за адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі – Уладзіміра Ганчарыка.

Зараз шмат Вас, людзей, якія гатовыя і жадаюць прагаласаваць за мяне. Я ўсім Вам за гэта вельмі ўдзячны. Але дзеля агульнай перамогі трэба, каб Вы ўсе прагаласавалі за Ганчарыка Уладзіміра Іванавіча. Згодна з падпісаным пагадненьнем, у выпадку нашай перамогі я ўзначалю ўрад. Я пагадзіўся на гэта не дзеля партфэлю, а каб зрабіць усё, што я толькі што абяцаў. У нас для гэтага ёсьць здольная каманда, і тое, што я агучыў, гэта толькі частка агульнай праграмы.

Я зьвяртаюся да тых, хто яшчэ ня вызначыўся. Галасуючы за Ганчарыка, Вы галасуеце за сябе, Вы галасуеце за Беларусь.

Я заклікаю галасаваць за адзінага кандыдата моладзь, таму што тады Вы, у чыіх руках будучыня нашай краіны, зможаце самі зрабіць сваё жыцьцё годным.

Я прашу прагаласаваць за гэта старых, таму што забясьпечаная старасьць лепей за жабрацтва.
Я прашу прагаласаваць за гэта жанчын, таму што дабрабыт сям'і лепей за тыя падачкі, якія Вам зараз кідаюць.

Я заклікаю прагаласаваць за гэта супрацоўнікаў міліцыі і вайскоўцаў, таму што тады Вам не прыйдзецца чырванець за тое, што Вы выконвалі загады зьбіваць сваіх братоў, дзяцей і айцоў.
Я прашу прагаласаваць за гэта прадпрымальнікаў, таму што толькі тады і будзе прадпрымальніцтва, а не выжываньне пад прэсам.

Я заклікаю прагаласаваць за гэта ўсіх чыноўнікаў і дзяржаўных службоўцаў. Тым, хто не парушаў законаў, няма чаго баяцца. Я абяцаю Вам – Ваш прафэсіяналізм і досьвед будуць запатрабаваныя новай уладай.

Я прашу прагаласаваць за гэта і ўсіх нязгодных са мною, таму што тады Вы зможаце выказваць сваю нязгоду бяз боязі, што вам заткнуць рот.

Я заклікаю прагаласаваць за гэта – нават Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку, таму што цяжка ж яму будзе застацца зусім аднаму.

Упэўнены, 9-га верасьня Вы зробіце правільны выбар. Будзем разам, і мы пераможам!

# За Ганчарыка ці проці ўсіх?

**Дык галасаваць мне за Ганчарыка ці не? Такое пытаньне задаюць цяпер у Беларусі тысячы людзей, якія сымпатызуюць іншым палітыкам, але й Лукашэнку галасоў аддаваць ня хочуць. Мы запрасілі ў рэдакцыю "Нашай Нівы" аднаго з такіх — палітоляга, кандыдата філязофскіх навук Уладзімера Мацкевіча.**

**"НН": Вы асабіста што вырашылі: будзеце галасаваць за Ганчарыка ці не?**

**У.М.:** Падыходжу да гэтага пытаньня рацыянальна. У нас зараз вельмі просты выбар. Мы ў лепшым становішчы, чым у 1994 г., калі 2 дэмакратычныя кандыдаты супрацьстаялі 4-м савецкім. Зараз выйшлі 2 на 2. На жаль, мы па сёньняшні дзень таксама памяркоўныя, лагодныя, таму адзіным кандыдатам застаецца Ганчарык. І ў нас проста іншага выбару няма.

**"НН": Але й на мінулых выбарах лічылася, што горшага за Кебіча няма...**

**У.М.:** Нясталыя грамадзтвы могуць перабываць у дыктатарскім стане дзесяцігодзьдзямі, некалькі пакаленьняў. Мы павінны паглядзець на сябе, на стан нашай грамадзкай сьвядомасьці. Паўтара году таму стала вядома, што Ганчарык будзе балятавацца ў прэзыдэнты, і трэ было тады зьвярнуць на яго ўвагу. Грамадзтва не заўважыла тады гэтага. А я назіраў за Ганчарыкам і мяркую, што ён амаль не зрабіў памылак. Ён ня быў на першым пляне, але за год стаўся тым, на кім сышлася большасьць чыньнікаў грамадзкага жыцьця. Я не разумею, калі кажуць, што Ганчарык ня лепшы за кагосьці або ўвогуле дрэнны. Ад набыцьця незалежнасьці Беларусі Ганчарык быў еўным прыхільнікам і ніколі не выказваўся супраць сувэрэнітэту, ці за здраду, ці за саюз з Расеяй. Як дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Ганчарык быў адным з тых, хто меў высокую пасаду, але застаўся зь Вярхоўным Саветам, не пайшоў у палату. Ён, натуральна, левы, сацыял-дэмакратычных поглядаў, але ўсё ж дэмакратычных і нашых, хай ён і ня ў першых шэрагах змагароў. Дык што вы хочаце ад чалавека, які ўсё жыцьцё адпрацаваў на высокіх пасадах? Калі мы ня хочам зноў атрымаць харызматыка, які нікога ня будзе слухаць, дык мусім выбраць Ганчарыка.

**"НН": Чаго, па-Вашаму, ня будзе за Ганчарыкам з таго, што адбываецца за Лукашэнкам?**

**В.М.:** Думаю, ня будзе палітычных забойстваў, перасьледу людзей за погляды, ня будзе парушэньня Канстытуцыі, ня будзе брутальнай улады, што не падпарадкоўваецца нават прынцыпам, якія сама дэкляруе. Ня будзе, пэўна, і здрады нацыянальным інтарэсам, можа быць, ня ўсё будзе атрымлівацца, але ж здрады таксама ня будзе. Надыдзе пэўная перадышка на шляху будаўніцтва. Я не спадзяюся на тое, што Ганчарык здолее змабілізаваць грамадзтва на адбудову, адраджэньне, але скласьці спрыяльныя, мірныя ўмовы для таго, каб у грамадзтве ўзмацніліся сілы, якія здольныя да канструктыўнай працы, Ганчарык здольны..

**"НН": То бок гэта такі прэзыдэнт на пераходны пэрыяд?**

**У.М.:** Я б гэтак не казаў, бо мы згубім час на пераходны пэрыяд. Гэта прыпынак для мабілізацыі рэсурсаў, вызначэньня, звароту ў актыўную палітычную дзейнасьць тых слаёў грамадзтва, якія згубіліся: бізнэсоўцаў, дзеячоў культуры і палітыкаў, што сёньня ў эміграцыі, і тых маладых, якія ня могуць прабіцца ў гэткіх умовах. Ён дазволіць нам падцягнуць рэсурсы, самавызначыцца й пачаць працу, не зважаючы, хто стаіць на чале ўраду…

**"НН": Ці не пачнецца зь вяртаньнем старое намэнклятуры ва ўладу чарговы перападзел маёмасьці?**

**У.М.:** Я ня бачу нічога дрэннага ў тым, што вернецца да ўлады гэтак званая намэнклятура. Тым больш, гэта не намэнклятура савецкіх часоў. Гэта ж не Малафееў, а людзі кшталту Шушкевіча. Гэтая намэнклятура ўжо трошкі іншая, зараджаная перабудоваю, дэмакратызаваная…

**"НН": Здаецца, што тым людзям, якія будуць агітаваць за Ганчарыка, недастаткова рацыянальных падставаў, ім патрэбная іншая матывацыя, можа быць апантанасьць чымсьці... ідэяй, асобай?**

**"НН":** Ня трэба ім ніякай апантанасьці асобай. Я сам сутыкаўся зь людзьмі, якія працуюць з электаратам "твар у твар". Трэба толькі быць чалавекам прывабным, добра гаварыць і ўмець слухаць. Так, уменьне слухаць... Хоць мала гэтых актывістаў, напросту мала. На жаль…

**"НН": Такім чынам, гэтым разам нашы выбарцы мусяць галасаваць розумам, а ня сэрцам?**

**У.М.:** Гэтым разам прагаласаваць сэрцам народ ня здолее. І я лічу, што гэта добра, бо ня трэба любіць Ганчарыка й прагнуць яго ўсёй душой. Добра, каб у нас быў такі шэранькі, працаздольны, памяркоўны прэзыдэнт, а не апантаны нейкай ідэяй, які будзе гнаць нас невядома куды.

**"НН": Зьмена Лукашэнкі на Ганчарыка будзе ў любым разе рэвалюцыйнай зьменай для Беларусі. Народ пры такім разьвіцьці падзеяў абавязкова павесіць над Домам Ураду бел-чырвона-белы штандар. Ці ня здыме яго Ганчарык пасьля сваёй прысягі?**

**У.М.:** Пытаньне з сымболікай дастаткова складанае, для яе вяртаньня мусіць быць праведзеная адпаведная піар-кампанія. Бальшыні гэта трэ будзе патлумачыць. Ну, а калі ўсё ж народ павесіць гэты штандар, думаю, Ганчарык ня будзе яго здымаць. Я ня думаю, што замена Лукашэнкі на выбарах будзе непазьбежна рэвалюцыйная. Вось калі Лукашэнка застанецца яшчэ на пару гадоў, тады сапраўды, рэвалюцыя магчымая. Мы пераможам ужо тады, калі 9 верасьня, у першым туры, не пераможа Лукашэнка. Таму пераломам у сьвядомасьці, які адбудзецца за два тыдні паміж першым і другім турам, я думаю, ня будзе роўных ад 1996 г. Адразу разбурыцца міт пра ўсенародную падтрымку Лукашэнкі. Гэта стане відавочным ня толькі шараговым выбарцам, але й тым, хто робіць палітыку — у тым ліку расейскаму боку й рэгіянальным уладам. І яны адразу ж адмовяцца падтрымліваць Лукашэнку.

**"НН": За часам кіраваньня Лукашэнкі багата людзей пасадзілі ў турму з палітычных і эканамічных прычынаў, разарылі, пазбавілі магчымасьці вучыцца... Ці будзе, па-Вашаму, Ганчарык ладзіць нейкую люстрацыю, судзіць Лукашэнку?**

**У.М.:** Нельга пакідаць злачынствы без пакараньня, нават умоўнага. Акрамя люстрацыі, важнае пытаньне адукацыйнай настрыфікацыі — перагляду статусаў уплывовых навукоўцаў з грамадзкіх навукаў, якія ў свой час абаранялі ідэалягічныя дысэртацыі, а цяпер кіруюць адукацыяй. Ці зоймецца гэтым Ганчарык? Ня ведаю…

**"НН": Па-Вашаму, Ганчарык па характары лепшы чалавек, чым Лукашэнка?**

**У.М.:** На жаль, гэты чалавек усё яшчэ недастаткова вядомы. Трэ было імкнуцца, каб прозьвішча, твар, сама асоба Ганчарыка сталася як мага больш вядомай. Нават не клапаціцца пра станоўчы імідж — хай будзе проста вядомасьць.

А Ганчарык памяркоўны, схільны прыслухоўвацца да іншых меркаваньняў, без аўтарытарных замашак, добры сямейнік. Яшчэ не разглядаючы Ганчарыка як важкую палітычную фігуру, я завёў нейк пра яго размову зь ягоным звычным антаганістам з Кангрэсу Дэмакратычных Прафсаюзаў Генадзем Быкавым. І Быкаў мне кажа: "Ганчарык — наш чалавек. Ён мой антаганіст па прафсаюзнай лініі, а як прыхільнік беларушчыны, незалежнасьці, ён заўсёды быў пасьлядоўны. Ніколі ён ня быў змагаром за гэта, але прыхільнікам быў заўсёды". І мне гэта ў ім падабаецца. Ён дэмакрат… Мне падабаецца ў Ганчарыку тое, што ён сярэдні беларус. Дый твар у яго досыць прывабны. Ня той, які ў "Рэзанансе" паказваюць са скажэньнямі. Высакародная сівізна, шырокі лоб, добрыя вочы. Прыемная размова, разважлівы, спакойны й разумны.

<><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><>

# Сьвядомыя

Ужо колькі гадоў, ці то па дрымучай местачковай дурноце, ці то па вытанчанай палітычнай подласці, у заявах і інтэрв'ю афіцыйных асоб, у нахабным балабонстве запісных тэле- і радыёагітатараў чыніцца дэманстратыўны здзек з беларускай мовы. Яе не проста ігнаруюць і заганяюць у "апазыцыйную рэзервацыю" – яе абражаюць ужо самім зваротам да яе, калі беларускае слова ўжываецца замест мяккай лаянкі ці безапеляцыйнага прысуду. Успомніце, як часта ўсе, каму хацелася, тапталіся па святым слове "незалежнасць". Яму прыпісвалі нейкі "нацыяналістычны" сэнс, пад яго падводзілі філасофскія "міны", далдонячы аб глабальнай узаемазвязанасці ўсіх і ўсяго ў сучасным свеце, яго апраналі ў паліцэйскія шынялі і шарачковыя лахманы. Нават афіцыйна зацверджаную назву станцыі мэтро ў Мінску "Плошча Незалежнасці" дасюль так і не сабраліся "пасяліць" на сцяне замест "Плошчы Леніна"…

Апошнім часам ворагі беларушчыны ўсур'ёз узяліся за слова "свядомы". Якіх толькі адценняў пагарды, прыніжэння і нават нянавісці не вырываецца з іхніх вуснаў, калі яны вымаўляюць яго! Колькі сарказму і непрыхаванай лютасці гучала з экранаў дзяржаўнага тэлебачання ў сувязі з правакацыйным інцыдэнтам каля пасольства Расійскай Фэдэрацыі, у двор якога была кінута граната. "Гэта справа рук нашых "свядомых"!" – вішчэлі вусатыя і бязвусыя каментатары і палітолагі. І што? Прайшло нямала часу, ва ўсякім разе дастаткова для разгляду дробнай крымінальнай справы, а найлепшыя нашы следчыя і ахоўнікі парадку так і не могуць паведаміць, чыёй жа рукой была кінута граната, каму спатрэбілася тая дурная акцыя. Ніякага следу апазіцыянераў, "незалежнікаў", "свядомых" так і не прадэманстравана. А брыдкі ярлык, брудная абвінавачанне, між тым, не зняты. Ніхто не папрасіў прабачэння ні з экрана, ні з трыбуны за наўмысную палітычную хлусню, за бязглуздыя, але зусім не бяскрыўдныя сьцьверджаньні…

На першы погляд можа здацца, што прадстаўнікі ўлады і "чэсныя" журналісты выпадкова і дарэмна прычапіліся да нармальнага, звычайнага беларускага слова. Каб жа так!..

Як сведчыць пяцітомны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", свядомы — значыць "разумны, асэнсаваны". "здольны мысліць і разважаць; перакананы ў правільнасці поглядаў, дзеянняў". Як бачыце, нічога дрэннага, а тым больш небяспечнага ці падрыўнога, у ім няма. Наадварот, без яго (без таго, што ў яго "закладзена") ніяк нельга абыйсціся ў цывілізаваным грамадстве, у дэмакратычнай дзяржаве. Але гэта тады, калі ўлада зацікаўлена ў высокай дасведчанасці і самастойнасці грамадзян, калі яна строга захоўвае законы, гарантуе і забяспечвае правы кожнага чалавека. А калі ёй патрэбны ўсеагульная маўклівая паслухмянасць, так званы "жалезны парадак", устаноўленая ёю жорсткая дысцыпліна? Хіба абавязковая тады "здольнасць мысліць і разважаць"? Куды прасцей, каб людзі бяздумна верылі кожнаму яе слову, каб прымалі за праўду, напрыклад, прыгожыя казачкі пра адзіную дзяржаву з двума суверэнітэтамі, пра рэальную роўнасць мядзведзя і зайца, пра магчымасць цэлай нацыі заможна жыць за кошт хітрасці і халуйства. У такім разе высокаму чыноўніку можна зусім не браць пад увагу ні патрэбы людзей, ні іх настрої, ні іх традыцыі і звычкі. Адзіная запаветная мэта і задача ў яго пры гэтым – любымі сродкамі ўтрымаць "крэсла" і ўзяць з ягонай дапамогаю як найболей дабрабыту для сябе і сваіх паплечнікаў. Тут свядомасць будзе толькі замінаць…

Ох, як добра пачувацца "наверсе", калі "ўнізе" не гаспадары жыцця, не "наймальнікі" і кантралёры, а шэрая, паслухмяная маса падначаленых, якая гатова "праглынуць" усё, што ёй не падкінуць, згодная трываць і хамскія пасьміханні, і некампетэнтнасць, і самадурства! Свядомасць тут, зразумела, зусім не для чаго. Большасці людзей у такім выпадку адводзіцца незайздросная роля баязлівых авечак з вялізнага арганізаванага статку, якім кіруе грозны пастух з пугаю ва ўчэпістых руках і цэлаю плоймаю злосных і звяглівых службовых сабак. І завецца такое становішча ў грамадстве таталітарызмам і дыктатурай. І людская сьвядомасць не заахвочваецца, а нават праследуецца ім…

А ўсё ж, хто яны, гэтыя "свядомыя", такія ненавісныя для сённяшніх афіцыйных ідэолагаў і валадароў? Як можна зразумець з эмацыйных выступаў розных апалагетаў дзяржаўнай палітыкі, — гэта найбольш актыўныя і адукаваныя патрыёты Бацькаўшчыны, тыя, што не проста вывучылі, а ўсім сэрцам успрынялі гісторыю роднай зямлі, тыя, што хочуць у свеце жыць раўнапраўна, не дзелячыся на "старэйшых і "малодшых", тыя, што нікому, ні за якую цану, ні пад якія абяцанкі не ўступяць сваю самастойнасць і незалежнасць. Яны сапраўды сьвядома змагаюцца за права Беларусі заняць «свой пачэсны пасад між народамі". Яны сапраўды свядома выкрываюць махінацыі і інсінуацыі новых русіфікатараў і так званых "інтэгратараў". Яны стараюцца раскрыць вочы і сваім землякам, і ўсім сумленным людзям свету на беды і несправядлівасці, якія перажываe працавіты і цярплівы беларускі народ… Я рады, што яны ёсць, што іх многа, што яны побач, што яны гатовыя пайсці на пакуты і выпрабаванні ў імя матулі – Беларусі.

Гнеўна і рашуча я адкідаю тыя зняважлівыя двукоссі, у якія, як у чорныя абцугі, аж залішне асмялелыя прыблуды і манкурты хочуць узяць поўнае годнасці і глыбокага зместу роднае слова. Пара ўсім нам нарэшце зразумець, што толькі ўсвядомленае прыняцце гістарычных рашэнняў, усвядомлены выбар свайго шляху да шчасця можа прынесці ўсім нам і нашай Радзіме перспектыву росквіту і павагу і падтрымку ў свеце.

Дык трымайцеся, мае дарагія сьвядомыя беларусы! Толькі вы здольныя выратаваць ад нябыту нашу адзіную, вечную Айчыну.

**Генадзь БУРАЎКІН (Б.Ч.)**

<><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><>



# Трэба біць трывогу

**Пасля доўгага перапынку наведала сваю родную вёску. Змены вялікія і ў горшы бок. Выраджаецца нацыя, апынулася на дне брудната балота. Прычына ўсяму – гарэлка. П'юць бязбожна – тыднямі, да бяспамятства, самаробную гарэлку ў якую дабаўляюць дуст, розныя хімікаты і яшчэ бог ведае што, каб хутчэй ачмурэць. Гандаль гарэлкай – асноўны прыбытак і заробак. Гандлююць і маладыя сем'і, каб пражыць і сталыя, каб дапамагчы дзецям і ўнукам, калечачы жыцці другім. Мяне здзіўляе, што гэтым займаюцца веруючыя людзі. Звярталіся і ў раённыя аддзелы міліцыі і да ўчастковых, усё безвынікова. Кажуць, што гандаль самаробнай "бармагухай" дазволены ў Беларусі. Так было пры Сталіне, саветах, камуністах. Лягчэй кіраваць чалавекам згубіўшым чалавечы вобліс, прыстойнасць і памяць. Таму за апошнія некалькі месяцаў жонка засекла мужыка і зрабіла б гэта з дочкамі, каб яны ў гэты час былі дома, жанчына маладая, былы парторг. Другая, калі людзі каля крыжа адбывалі маёўку, спяшалася дахаты, каб у 7 гадзін вечара адсекчы галаву мужыку. Такому паведамленню ніхто не паверыў, але гэта яна зрабіла. У апошнія выхадныя хавалі маладога чалавека, другі ў рэанімацыі, за бутэлькай высвятлялі адносіны. Зарэзалі сям'ю. Вось такія страшныя рэаліі жыцця. Як вядзецца статыстыка ў міліцыі, ці такія здарэнні хаваюцца? Я аб гэтым распавядала ангельцам, дык гэта ж фільмы жахаў.**

**Калі хто крыху думае, з'язджаюць на заробкі ў другія краіны. Задумаліся і пенсіянеры аб будучым саюзе з Расеяй, нічога добрага не будзе, бачаць да чаго даведзены калгасы і эканоміка, і як жывуць расейцы ў Расеі. Закончылі школу і нават самыя таленавітыя вучні не спрабуюць паступаць у ВНУ, патрэбныя грошы, блат, знаёмствы. Палі пустуюць. Але ж ёсць і прыемнае – на Сёмуху ў Гярвянецкім касцёле адбыўся фэст, на якім прысутнічаў і выступіў Альгірдас Бразаўскас, біскуп, але ж гэта дзякуючы намаганням літоўцаў. Прамовы казаліся па-літоўску, польску і па-беларуску. Лылойцінская бібліятэка сама выпісвае "Наша слова", можа і таму, што мясцовая школа носіць імя беларускага пісьменніка Артура Цяжкога, ён родам з Лылойцяў і пахаваны на Нястанішкіх могілках. Мая братова паведаміла, што Дабраўлянскі парк набудзе статус нацыянальнага. Даўно пара, - там бываў В.Дунін-Марцінкевіч, а таксама, у Путуліне. Мая боль – Варонскі Георгіеўскі касцёл XVIII стагоддзя быў прыстасаваны пад майстэрню сельскагаспадарчай тэхнікі – здаецца пачалі рэстаўраваць.**

**Прычына, што вёска апынулася на дне – абыякавасць да роднай мовы, ліквідацыя бібліятэк, закрыццё беларускамоўных школ, спачатку ў Гірах, потым у Завельцах, Нястанішках, Палянах. Будынкі знішчаюцца, што можна крадзецца. Пустыя дамы засяляюцца прыезджымі, як мой дзядзька казаў: "Людзьмі з усяго свету". Трэба помніць і берагчы мінулае для будучыні.**

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня. (Н.С.)***



# Чаму Беларусь пакідаюць самыя актыўныя й разумныя людзі?

### Чаму гэтак шмат "змагароў з рэжымам" просяць прытулку на Захадзе?

**Сьвятлана Курс** (Р. Рацыя)

Нядаўна адзін з карэспандэнтаў хадзіў на прэс-канфэрэнцыю прадстаўнікоў Дзяржкамчарнобылю. Імпазантная дама распавяла пра аздараўленьне малых чарнобыльцаў: колькі іх выяжджае штогод у Італію, Нямеччыну, іншыя эўрапейскія краіны. Напрыканцы яна зрабіла нечаканую заўвагу: "Я лічу, што найлепш вывозіць дзяцей не за мяжу, а ў беларускія дамы адпачынку. Тут звыклыя для іх умовы харчаваньня, умовы жыцьця, адносіны паміж людзьмі. Адтуль жа вяртаюцца, - доўга адаптавацца ня могуць, плачуць. Нашто ламаць дзіцячую псыхіку?"

І сапраўды, здавалася б, нашто? Патрапляюць дзеці ў казку, а пасьля прыяжджаюць у бедныя чарнобыльскія паселішчы, у сельскія школкі, ня кожная зь якіх можа даць людзкую адукацыю. Потым бальшыня дзяцей паступаюць у тэхнікумы ці ПТВ у якім правінцыйным гарадку й застаюцца на ўсё жыцьцё ў Жлобіне ці Рэчыцы. А вы ведаеце, якое тужлівае й занішчанае жыцьцё цяпер на правінцыі. Тут я не перабольшваю.

Аднак беларускія праваабаронцы з Цэнтру правоў чалавека лічаць: дзяцей трэба вывозіць, каб яны, вяртаючыся сюды, маглі перарабіць жыцьцё на лепшы лад. Нядаўна спд. Вера Страмкоўская, кіраўнік Цэнтру па правох чалавека, прывезла групу дзяцей, якія адпачывалі ў Мікалайках, польскім курортным мястэчку, дзе адзін ўік-энд каштуе $60:

- Гэта была паездка, якую спэцыяльна зрабіў Цэнтар па правох чалавека для дзяцей зь сем'яў, што церпяць ад рэжыму. Нашыя праграмы ўвогуле скіраваныя на людзей з тых пакаленьняў, якія могуць нешта зьмяніць у нашым краі. Мы хацелі, каб дзеці адпачылі й зірнулі на жыцьцё па-новаму, каб зразумелі, што можна ўладкаваць усё інакш, лепей. У Мікалайках нас прымалі кс. мікалайкаўскай парафіі Маці Божай Ружанцовай Станіслаў Гадомскі, бурмістар Мікалайкаў Пётар Якубоўскі й нават сам Біскуп Элкскі Эдвард Самсэл… Але ён знайшоў час, каб пабачыцца зь дзецьмі зь Беларусі й блаславіць іх. Жыхары Мікалайкаў несьлі дзецям вопратку, ежу, слодычы, падарункі - гэтулькі ўсяго, што мы павезьлі дамоў цэлы аўтобус. Дзеці вельмі многа й якасна елі - у іх было пачуцьцё натуральнай сытасьці, якое так рэдка бывае дома… Хадзілі ў прыватны заасад у Мікалайках, плавалі на прыватным адпачынкавым караблiку. Дзеці пабачылі, што жыцьцё ў Польшчы збудавана на грунце прыватнай уласнасьці - ты можаш адчыніць рэстарацыйку, заасад, набыць курортны карабель. І толькі тады ты можаш даць нешта іншаму. У цябе ёсьць - і ты даў. Прыходзіў да нас і бургамістар Пётар Якубоўскі, ён прадстаўляў улады, быў просты, сядзеў зь дзецьмі, еў зь імі, сьпяваў. Там улады, прадпрыймальніцтва, касьцёл - усё для чалавека, усё скіравана да чалавека.

Мы са спд. Страмкоўскай сядзім на канапе ў Цэнтры па правох чалавека й разглядаем здымкі. Вось бурмістар Пётар Якубоўскі - малады прывабны мужчына, якога жыхары Мікалайкаў абралі ўжо на другі тэрмін. У сп. Пятра - чацьвёра дзяцей. З самым малодшым - двухмесячным дзіцёнкам - і жонкаю ён прыйшоў павітаць беларускіх дзяцей. Вось здымак прыватнага заасаду - зьвяры не сядзяць у клетках, але гуляюць па лясох і палянах. Іх можна пагладзіць. Вось дагледжаныя домікі й усьмешлівыя людзі - мікалайкаўскія жыхары. Ад здымкаў павявае такімі цеплынёй і спакоем, што я міжволі спомніла свае замежныя паездкі. Спд. Вера апісвае пачуцьці пры вяртаньні:

**В.С.:** - Ведаеце, мы ўсе плакалі, як вярталіся. Мы ўсе - і дарослыя, і дзеці - апынуліся ў нейкай казцы. І гэтак жа, як Папялушка, мусілі вярнуцца з казкі туды, адкуль прыехалі. І вось гэтая розьніца паміж тым, што мы пабачылі, і тым, куды мы вяртаемся, і тая дыстанцыя… Адлегласьць паміж намі толькі пяцьсот нейкіх кілямэтраў, але дыстанцыя ў гадох каласальная. Гады пройдуць - ня год, ня два. Дзеці будуць даросьлець у сваім дзяцінстве, тут, дзе кепска ядуць, абы-худы ходзяць і абы-што носяць… І тое, што зрабілі зь іхнімі сем'ямі, дало такі стрэс…

Самай сумнай беларускай музычнай п'есай ёсьць, безумоўна, палянэз Агінскага "Разьвітаньне з Радзімай". Аднак ніхто яшчэ не напісаў сумнай п'есы пад назовам "Вяртаньне на Радзіму". А варта было б. Таму што людзі, якія зьезьдзілі на Захад, потым вяртаюцца дахаты з тугою. Тры чвэрці маладых хочуць зьехаць зь Беларусі. Яны зьяжджаюць на Захад не па грошы, але па людзкасьць у стасунках, па павагу да свае асобы й працы. Асабіста я пры пераезьдзе праз заходнюю мяжу міжволі ўзгадваю першы сказ Агульнай Дэклярацыі правоў чалавека: "Кожная чалавечая асоба нараджаецца роўнаю у сваёй годнасьці й правох".

У нас заведзена думаць, што правы чалавека, розныя канвэнцыі й дэклярацыі - ідэальныя паняткі, якія нічога ня маюць агульнага з рэальным жыцьцём. А на Захадзе да гэтага ідэалу імкнуцца. Вось і ўся розьніца паміж намі.

У Беларусі застаюцца збольшага людзі пажылага веку, якім цяжка скранууца зь месца, скласьці канкурэнцыю на чужым рынку працы. Каля 25% насельніцтва нашай краіны – пэнсіянэры. Бальшыня зь іх ніколі не бывала за мяжою. Свае ўражаньні пра Захад яны чэрпаюць найбольш з афіцыйнай прэсы, якая стварае лжывае ўяўленьне пра сьвет. Мой сябра, які нядаўна сышоў з БТ, апавядаў, як стары й цынічны карэспандэнт АТН, які штодня ганіць захад, сказаў: "калі скончыцца лукашэнкаў час, - і пачнуць разьбірацца, што да чаго, я зьеду на Захад. Там у мяне два сыны ўладкаваныя".

І ўсё ж нельга грунтаваць будучыню цэлай краіны на цынізме й адчаі. Беларусь ня ёсьць выклятым месцам, адкуль зьбягае ўсё жывое. Беларусь ёсьць нашай краінай, кропкай прыкладаньня нашай сілы, домам, які мы мусім будаваць. Нядаўна я даведалася, што зьехаў рэкардсмэн па адсідках - барысаўскі апазыцыянэр Аляксандар Абрамовіч. Чалавек змагаўся-змагаўся, стаміўся й зьехаў. Мне здаецца, што мы зашмат змагаемся й замала ствараем. Ствараць і пашыраць створанае - наша задача. Далёкая шчасьлівая Беларусь, да якое трэба ісьці-брысьці адвечным шляхам у парваных лапцёх, сёньня ўжо нікога не натхняе. Жыць і рабіць найлепей сёньня й тут.

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК ЗАКЛІКАЕ ГАЛАСАВАЦЬ СУПРАЦЬ УСІХ КАНДЫДАТАЎ І РЫХТАВАЦЦА ДА ПАЎТОРНЫХ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ (!?)

Мінск, 16 жніўня. Старшыня Кансерватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк звярнуўся з заклікам да беларускіх выбаршчыкаў галасаваць супраць усіх кандыдатаў на вераснёўскіх выбарах прэзідэнта.

У звароце сп. Пазьняка падкрэсліваецца, што ўсе чатыры зарэгістраваныя кандыдаты – Сяргей Гайдукевіч, Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш і Аляксандр Лукашэнка - маюць, на яго думку, "прамаскоўскую арыентацыю". "Усе гатовыя падтрымліваць на Беларусі расійскую каланіяльную палітыку, - гаворыць З.Пазняк. - Гэта Лукашэнка і былая камуністычна-гэбоўская наменклатура. У выпадку абрання любога з іх застаецца існаваць антынародны рэжым, яго скіраванасць на Расію і залежнасць ад антыбеларускай палітыкі Масквы".

Лідэр Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ заклікае выбаршчыкаў выкрэсліваць усіх кандыдатаў і ў першым і ў магчымым другім туры выбараў. Тады ў верасні ніхто не будзе абраны, і праз тры месяцы мусяць адбыцца паўторныя выбары з новымі кандыдатамі, піша ён. На думку сп. Пазьняка, такі варыянт падзей меў бы тры пазітыўныя наступствы:

Па-першае, Аляксандр Лукашэнка быў бы вымушаны ісці на паўторныя выбары "аслабленым", як асоба, якая не выйграла, маючы неабмежаваную ўладу.

Па другое, у канцы лістапада сканчаецца тэрмін паўнамоцтваў сп. Лукашэнкі па Канстытуцыі 1996 года, і таму кіраўніком краіны, на думку З.Пазняка, мусіў бы часова стаць старшыня Савета Міністраў Уладзімір Ярмошын.

Па-трэцяе, за гэты час былі б выстаўленыя новыя, беларускія кандыдаты.

Сп. Пазьняк нагадаў аб прэзідэнцкіх выбарах 1994 года, калі некаторыя галасавалі за сп. Лукашэнку, каб не прапусціць на прэзідэнцкую пасаду тагачаснага прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. У той час З. Пазьняк выступаў з заклікам галасаваць у другім туры супраць абодвух гэтых кандыдатаў. Цяпер ён заклікаў беларусаў, перш за ўсё грамадскую эліту і моладзь, "не паўтарыць памылку 1994 года".

Сп. Пазьняк, за якога ў першым туры выбараў 1994 года прагаласавала 13 працэнтаў выбаршчыкаў і які з 1996 года знаходзіцца на эміграцыі, сёлета вылучаўся кандыдатам на прэзідэнцкую пасаду, але не быў зарэгістраваны, бо, паводле звестак Цэнтрвыбаркама, ягоная ініцыятыўная група здала менш за 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў, неабходных для рэгістрацыі.

Аляксей ЗНАТКЕВІЧ, БелаПАН.

*******************************************************

Дарагія Суродзічы!
Паважаныя Чытачы!
Моцна просім пераслаць
Вашую гадавую **Ахвяру**
на Выдавецкі Фонд газэты.
Нам вельмі патрэбная
Вашая дапамога!!!
Дзякуем!

# Падарожжа ў блізкае замежжа

*Беласток – Дубічы – Мельнік – Дарагічын – Крынкі – Грабарка – Сэйны*

**17—29 чэрвеня я браў удзел у Міжнароднай гуманістычнай школе Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, зладжанай намаганьнямі Асяродку дасьледаваньня старажытнай культуры Варшаўскага ўнівэрсытэту, фундацыі *Instytut Artes Liberales* і Беластоцкага ўнівэрсытэту. Кіраўнікамі школы былі прафэсарка Эльжбета Смулкова, былая пасол Польшчы ў Беларусі, і гісторык Яўген Міранові.**

**У працы школы бралі ўдзел 30 "студэнтаў", хоць сапраўдных студэнтаў сярод іх было толькі трое, усе астатнія — асьпіранты ці маладыя навукоўцы з Горадні, Менску, Наваполацку, Берасьця, Львова, Беластоку.**

Школа нашая месьцілася ў Гайнаўскім павеце, у вёсцы Дубічы-Царкоўныя, што за 5 км ад Белавескай пушчы. Вёска зьяўляецца цэнтрам гміны, ейнае насельніцтва — чалавек 300. Дубічы-Царкоўныя маюць свой герб: на кармінава-бела-кармінавым тле сымбаль, які складаецца з паловы лісточка дубу й паловы царкоўнай цыбуліны. На ўсе Дубічы толькі дзьве вуліцы — Паштовая і Галоўная, два бары і дзьве крамкі. Але аж чатыры тэлефоны зь міжнароднай сувязьзю, якія выглядаюць навюткімі. Сувязь зь Беларусяй ідэальная. Жылі мы а двох кілямэтрах ад Дубічаў, у курортнай зоне Бахматоўка — на ўскраіне лесу ў драўляных дамках. Час ад часу, зусім як у Менску, не ставала гарачай вады.

Наш шлях у Дубічы ляжаў каля стравусінай фэрмы. Але колькі мы ні прыглядаліся, колькі ні прыўздымаліся над плотам, ніводнай птушкі не пабачылі. Трэба думаць, што для іх пакуль ствараюць патрэбны ляндшафт, каб яны не памерлі ад настальгіі сярод беластоцкіх бярозак. Затое буслоў на Беласточчыне — як у Менску вераб'ёў, літаральна на кожным кроку.

Сярод іншых нашых "школьных" заняткаў былі "бадання тэрэновэ" (палявыя дасьледаваньні), у часе якіх мы павінны былі запісваць успаміны мясцовых людзей (Беластоцкі ўнівэрсытэт рыхтуе кнігу пра жыцьцё ў Польшчы ў 20—30-я гады). У вёсцы Дубічы-Тафілоўцы, дзе мы гэтымі "баданямі" займаліся, людзей дзівілі нашыя пытаньні пра нацыянальны й сацыяльны ўціск за Другой Рэчпу Паспалітай. Ну, так, жыць было цяжка, не ставала грошай, але каб што гэткае... Пілсудзкага не любілі. Калі ў Дубічах у 1936 г. польскія ўлады вырашылі паставіць помнік Начальніку Дзяржавы, на наступную ноч мужыкі згаварыліся і дзесьці яго ўтапілі, ды так добра, што дагэтуль ніхто ня можа знайсьці.

Найлепшым часам праваслаўныя жыхары Беласточчыны (а іх тут амаль 100%) лічаць часы "камуніі" (Польскай Народнай Рэспубліцы). Тады беларусы мелі мажлівасьць працаваць ва ўладных структурах, камуністычны ўрад даваў шчодрыя субсыдыі на сацыяльна-эканамічную сфэру і культуру. Часы Герэка згадваюцца зь цеплынёй: *"Гэта не за злодзеямі Валэнсам і Квасьнеўскім, аднак Ваш... Лукашэнка яшчэ горшы за нашых бандытаў".*

Людзі ў размовах з намі наракалі на малыя пэнсіі, што вагаюцца ў межах 600—900 злотых. (1 даляр — гэта менш за 4 злотыя). Калі мы распавядалі пра беларускія пэнсіі, людзі ня верылі і думалі, што мы нешта блытаем зь лічбамі.

Аднак жыцьцё ў Польшчы насамрэч не такое салодкае, як можа падацца. Пэнсіянэры атрымліваюць грошы. А што рабіць маладым, якія ня маюць працы? Эканамісты палічылі, што Гайнаўскі павет, адзін з найбяднейшых у Польшчы, пры сёньняшніх тэхналёгіях пракормяць 60 фэрмэраў, а сёньня там 2000 сем'яў займаюцца сельскай гаспадаркай. Дзяржава імкнецца рэгуляваць эканамічныя адносіны, не дапускаць перавытворчасьці сельскагаспадарчай прадукцыі. Прыкладам, яна засявае зямлю лесам, плоцячы ейным гаспадарам арэнду. Але людзі, якія ўсё жыцьцё працавалі на зямлі, не разумеюць такога клопату дзяржавы.

У кожнага суразмоўцы мы пыталіся, хто ён па нацыянальнасьці і якой мовай гаворыць. Усе казалі: мы беларусы, размаўляем нашай беларускай мовай. Толькі адна жанчына акрэсьліла сябе праваслаўнай полькай, але патлумачыла, што яна полька, бо жыве ў Польшчы, а насамрэч яна беларуска.

Аднаго разу мы выправіліся ў аўтобусную вандроўку па гарадах, разьмешчаных на Бузе. У Мельніку найбольш уразіў абраз Маці Божай пры ўваходзе ў тамтэйшую царкву. У 1939 г. савецкія воіны практыкаваліся ў стральбе, цаляючы ў яго, і зрашэцілі яго ўшчэнт. Жыхары так і пакінулі абраз вісець як памяць пра "воінаў-вызваліцеляў"...

У Дарагічыне-над-Бугам наведалі духоўную сэмінарыю. Вясёлы ксёндз Бароўскі паказаў нам інкунабулы і дакумэнты XVI ст., і нават мэтрыку Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Паказаў шыкоўны слуцкі пояс, які выглядае што навюткі. Пахваліўся айцец Бароўскі і аўтографам Адольфа Гітлера, пашкадаваўшы, што не стае аўтографу другога злыдня — Сталіна.

Распавёў гісторыю келіха для сьвятой камуніі. У 1939 г. у Дарагічын прыйшлі саветы, разрабавалі касьцёлы, сэмінарыю, павывозілі каштоўнасьці. Сьвятароў "пасялілі" каля Томску. Ксяндзы не скарыліся і ладзілі ў лягерных умовах набажэнствы для вернікаў. Але як правесьці сьвятую камунію на 40-градусным марозе, калі келіх прымярзае да рук? Выйсьце было знойдзена. Келіху была "падараваная" душа — у ім прасьвідравалі дзірку, каб устаўляць сьвечку.

Наведалі мы і сьвятую гару Грабарку. Кажуць, калі хочаш пазбыцца хваробы або папросту заручыцца дапамогай вышэйшых сілаў у нейкай справе, трэба паставіць на гэтай гары крыж, напісаўшы на ім сваю просьбу. Тысячы крыжоў, прынесеных людзьмі з усёй Беласточчыны, робяць незабыўнае ўражаньне. Але санктуарый крыху зьмяншае эфэкт сьвятога месца: начыньне з золата й дываны пад нагамі псуюць уражаньне.

Нельга было не завітаць і да Сакрата Яновіча ў Крынкі. Паваленага плоту, пра які сьпявае Шалкевіч, я не пабачыў, усё прыстойна і прыгожа пафарбавана. Вось і *Villa Socrates*, і ейны добразычлівы, хоць і востры на язык гаспадар. Дасталося ўсім: і беларускай інтэлігенцыі, якая прафукала нацыянальнае адраджэньне й беларускую мову, і палякам, і беластоцкім беларусам. Пахваліў, праўда, часопіс "ARCHE", новы нумар якога пасьпеў прачытаць да нашага прыезду, выпраўляючы ў сваім тэксьце граматычныя й сынтаксічныя памылкі.

Апошнія тры дні мы правялі на польска-літоўскім памежжы, у Сэйнах, дзе ў 1919 г. адбылася сутычка паміж польскім палком, што складаўся зь беларусаў, і літоўскім палком, у якім таксама ваявалі беларусы... Цяпер у Сэйнах жыве каля 20% летувісаў, і працуе шыкоўны Дом літоўскай культуры. Але наймацней літоўскасьць адчуваецца ў Пуньску, што на самай мяжы зь Літвой, дзе 80% насельніцтва — літоўцы. Найбольш гэта адчувалася ў рэстарацыі, інтэр'ер якой зроблены ў стылі літоўскай карчмы 30—40 г. Нацыянальныя стравы, славуты крупнік, дзяўчаты-афіцыянткі — тыповыя балткі. Калі гасьцінны гаспадар рэстарацыі паставіў нам касэту зь літоўскімі песьнямі-маршамі, мне падалося, што на дварэ чэрвень 1946 г. Вось зараз увойдзе лясны брат, паставіць у куце карабін, пагрудзіць на нас пільна і... закажа такія самыя стравы дый будзе спакойна вячэраць. І ніхто яго не затрымае, бо ўсе свае...

**Алег Гардзіенка (Наша Н.)**

********************************************

# Пісьменьнік на пенсіі

**Васіль Быкаў адказвае на пытаньні галоўнага рэдактара "БЧ"**

— Пасьля Вашага папярэдняга прыезду на Бацькаўшчыну прайшоў год. Што новага, радаснага ці трывожнага Вы знайшлі дома гэтым разам?

— Так, знайшоў трохі радаснага, але болей трывожнага. Ну, найперш, радасна было даведацца, што Саюз пісьменьнікаў на сваім зьезьдзе прыняў правільныя ўвогуле рэзалюцыі-звароты, ня даў пятай калёне сябе расколоць, абраў прыстойную раду і здольнае кіраўніцтва. Трывож- нага, можа, болей, асабліва, што да электарату, палітычная сьвядомасьць якога, на мой погляд, не дасканаліцца з году ў год, а застаецца на ра- нейшым, савецкім узроўні. Ну але, што значыць год перад стагодзьдзямі, якія Беларусь перажыла і якія належыць яшчэ перажыць!

— Гісторыя сьведчыць, што за перыядам роськвіту ідзе заняпад, за якім зноў пачынаецца росквіт. На Вашу думку, ці доўга яшчэ чакаць лепшых часоў Беларусі?

— Гэта ў дачыненьні да цывілізаванага грамадства, дзе плюс-мінус перыядычна ўраўнаважваюцца. Нашая ж краіна даўно выпала з кола гістарычных заканамернасьцяў, боўтаецца на самым дне цывілізацыі, і якіх-небудзь шанцаў выбрацца бліжэй да паверхні пакуль што я ня бачу. Нават ня бачу колькі-небудзь выразнага жаданьня таго, апроч хіба спарадычных і непасьлядоўных спробаў нацыя- нальнай эліты, што складае ня болей за 10 адсоткаў усяго насельніцтва. Але ў грамадзтве, лёсы якога вызначаюцца ўсеагульнымі, прамымі і адкрытымі выбарамі, таго занадта мала.

— Здаецца, што сёньня маральны стан грамадзтва значна горшы, чым, напрыклад, у пасьляваенныя гады. Тады людзі жылі ва ўмовах разрухі і рэпрэсіяў. Хапала і іншых бедаў. Але падобна, што ў іхнім настроі ў большай ступені прысутнічаў эмацыянальны ўздым. Ці так гэта і чаму?

— Мабыць, так. Але тады, што да працы, дзейнічаў жалезны прынцып: добраахвотна, але абавязкова. А цяпер і таго няма. Людзі засвоілі іншы, звыродлівы прынцып: хто «за», той страціць свабоду, але будзе мець хлеб. А хто супроць — ня будзе мець ні свабоды, ні хлеба, — вельмі імператыўны выбар з дужа прадказальным вынікам.

— У 1995 годзе вы прадказалі, што Лукашэнка ня зладзіць з эканомікай. Тады ж выказалі думку,



што ён будзе кіраваць, пакуль "сваім злом не даканае грамадзтва". Па Вашых адчуваньнях, гэты момант яшчэ не насьпеў?

— Мабыць, яшчэ не насьпеў, а як насьпее, тады Лукашэнка знойдзе для Беларусі іншую мэту, і народ "палюбіць" яго яшчэ больш. На наступных выбарах, калі ён будзе балатавацца на трэці, чацьвёрты, пяты тэрмін, ён будзе мець 99,99 адсоткаў «за». Усё ідзе да таго. Што ж да нашай савецкай ці постсавецкай эканомікі, дык зь ёй ня можа зладзіць ніхто – ні Лукашэнка, ні сам Гасподзь-Бог. Гэтая эканоміка, заражаная камуністычным вірусам, і яна павінна цалкам і бясьследна памерці, толькі тады на яе месцы можа спарадзіцца якая-небудзь іншая, людзкая экано- міка. Але для таго патрэбны іншы, людзкі рэжым, неабходнасьць якога на Беларусі яшчэ не дайшла да розуму электарату.

— Ці згодны Вы з тым, што лёс Беларусі найбольш залежыць ад захаваньня нашай краінай дзяржаўнай незалежнасьці?

— Кажуць, лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсьці. Мусіць, мы з дурнямі знайшлі нашую незалежнасьць, якою ня ведаем як скарыстацца. Хіба дзеля здачы ў тую нарыхтоўчую ўтылькантору, якая нядаўна яшчэ звалася "сверхдзяржавай", а цяпер сталася хілай і слабаразьвітой. Затое з ядзернымі боегалоўкамі – мабыць, тое і натхняе нашых здатчыкаў утыльсыравіны.

— Чытачы цікавяцца, над чым Вы працуеце зараз?

— Пішу інтэрв'ю, артыкулы, прыпавесьці, апавяданьні, аповесьці. Чым жа яшчэ можа займацца пісьменьнік на пэнсіі ды ў замежжы?

— Кажуць, што і птушка лепш сьпявае дома. А як Вы адчуваеце сябе ў эміграцыі? ?

— Канешне, паводле ўсіх законаў зямных і нябесных кожны чалавек павінны жыць дома. Гэта вялікая драма, калі ў чалавека няма таго дома. Калі той дом пабурылі ворагі ці прыродныя катаклізмы. А калі ён ёсьць, ды недаступны па нейчай злой волі, дык драма ад таго яшчэ большая. Гэта ўсё пры тым, што жыцьцё на ўладкаваным, дэмакратычным Захадзе куды спакайнейшае і спрыяльнае, чым на радзіме, і адносіны тубыльцаў да мяне самыя спагадныя.

Зрэшты, як і мае да іх. Хоць пэўным сілам тое дужа не даспадобы, і яны час ад часу прымаюць свае звыклыя супраць таго меры. І на радзіме, і тут...

********************************************

# СТАРАЖЫТНАЯ ЛІТВА І СУЧАСНАЯ ЛЕТУВА

Нічога ў нас, беларусаў, не атрымаецца, пакуль не пачнём называць рэчы сваімі імёнамі.

Ну, сапраўды, калі Вы, напрыклад, называеце гэта сталом, а я гэта самае называю дзвярыма... Тады, маючы на ўвазе адно, мы будзем казаць пра рознае. У выніку атрымаем або недарэчную камедыю, або недарэчную трагедыю. Прынамсі, анічога разам, супольна мы з вамі зрабіць не здолеем, аніякае карысці ад нашых перабудоваў не будзе.

Альбо - такая сітуацыя. Уявіце, што Вы самі не маеце пэўнага, свайго імя. Нехта кліча Вас Васілём, а нехта Ганнай, хтосьці Пазьняком, а хтосьці Дземянцеем. Праз такую няпэўнасць Вы адначасова і белы, і чорны, і левы, і правы, і цвёрды, і мяккі. Усялякі і ніякі. Вы не маеце свайго імя, свае назвы.

А калі свайго імя не мае цэлы край і цэлы народ?

Нешта падобнае адбываецца з назвамі БЕЛАРУСЬ і БЕЛАРУСЫ. Пагартайце старыя кнігі, і Вы ўбачыце, як часта мянялася наша назва. Былі мы і русінамі, і ліцьвінамі, і тутэйшымі, і нават палякамі. А зямля наша была і Руссю, і Літвой, і «Северо-Западным краем», і «Западной Россией»...

Чаму гэта важна? Таму што імя краіны і народа - гэта іхні маральны тыл і капітал. І пасля кожнай новай замены сваёй назвы мы, беларусы, назаўсёды страчвалі свой надзейны тыл і з нуля пачыналі свой капітал.

Уявіце, калі б сёння Беларусь называлася Расеяй, а мы, беларусы, - расейцамі. Ды мы б адразу пачалі глядзець на сябе зусім інакш, пранікліся б нацыянальнаю годнасцю і сваёй «сусветнай місіяй». Інакш глядзелі б на нас і ў свеце, нас бы заўважылі.

А Расея называлася б Беларуссю...

- Дзе ж гэта такі край? - пыталіся б у свеце, як цяпер пытаюцца ў нас. - Не чуваць нешта такога ў гісторыі.

Хто ведае гісторыю, таму вядома, што мы некалі прэтэндавалі на непадзельнае валоданне гэтаю назваю - Русь... Рускімі нас, беларусаў, называлі ў тыя часы, калі сучасных рускіх называлі не інакш як маскавітамі, маскалямі. Маскоўская дзяржава тады яшчэ не была *Рускаю*.

А літоўцамі і называлі нас, і мы самі сябе лічылі да мінулага стагоддзя. «О, Літва, мая Айчына», - пісаў пра Навагрудчыну, пра Беларусь Адам Міцкевіч. «Продкі мае выйшлі з літоўскіх балотаў», - пісаў пра Піншчыну, пра Беларусь Фёдар Дастаеўскі. Беларускі пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч «Літвою» лічыў Менск, у якім тады жыў, - сучасную сталіцу Беларусі. Беларускага паэта Ўладзіслава Сыракомлю сучаснікі называлі «лірнікам літоўскім», а другі вядомы беларускі пісьменнік Арцём Вярыга-Дарэўскі, які нарадзіўся на Лепельшчыне і жыў у Віцебску, пісаў у сваім творы: «Літва - родная зямелька». Дарэчы, і верш ягоны з красамоўнаю назваю «Ліцьвінам, што запісаліся ў мой «Альбом», на развітанне» (1858) быў адрасаваны маладым беларускім літаратарам. У ім аўтар, між іншым, усклікаў: «Чый гэта голас? Гэты словы нашы, брацелькі-літоўцы».

Такіх прыкладаў безліч. З іх відаць, што ў XIX стагоддзі словы «Літва» і «ліцьвін» выкарыстоўваліся як саманазва беларусаў заходняе і цэнтральнае частак нашага краю. Гэтаксама называлі нас і суседзі. З вуснаў украінца пра беларуса можна было пачуць: «Хіба лихо озме литвина, щоб він не дзекнув». Жыхары Курскай і Арлоўскай вобласцяў Расеі называлі беларусаў «ліцьвінамі» ажно да другой сусветнае вайны. А на Беласточчыне ўжо ў наш час запісана пра беларуса: «Як сыр не закуска, так ліцьвін - не чалавек!» або «Ліцьвін - то чортаў сын!»

Дзесяткі вёсак на Беларусі маюць назву Літва. Пэўна, кожны з нас мае знаёмых беларусаў з прозвішчамі Літвін, Літвіновіч, Літвінка...

Але чым тады была ў мінулым сённяшняя *Літва*? У XIX стагоддзі тэрыторыя цяперашняе Літвы, блізкая па абрысах да тэрыторыі Літоўскае рэспублікі міжваеннага перыяду, найчасцей звалася сваім адвечным імем - Жмудзь. Пра гэта ёсць багата сведчанняў, напрыклад, у матэрыялах паўстання 1863 года.

Такім чынам, яшчэ ў зусім недалёкай мінуласці землі заходняе і цэнтральнае Беларусі мелі сваю адметную назву - Літва. Нават прадстаўнікі афіцыйных уладаў Расейскае імперыі, што мелі на мэце сцвярджаць у нашым краі «извечную Россию», разглядалі Віленскую, Гарадзенскую і Менскую губерні, а таксама Беласточчыну, як Літоўскі край. Таксама і раней, скажам, адразу пасля падзелаў Рэчы Паспалітай землі заходняй Беларусі ўваходзілі ва ўтвораную Літоўскую губерню, а потым - у Літоўскае генерал-губернатарства.

Нават царскія ўлады пакідалі этнічна беларускім адміністрацыйна-тэрытарыяльным утварэнням назву Літва. Няўжо выпадкова? Не, паводле глыбокай гістарычнай традыцыі.

Яшчэ ў XV-XVII стагоддзях - у часы існавання магутнай эўрапейскай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, ядром якога былі беларускія землі, дакументы найчасцей фіксавалі кароткую форму назвы гэтае дзяржавы - Літва. У якасці палітоніма, гэта значыць дзяржаўна-палітычнага вызначэння, слова «Літва» замацоўвалася нават за паўночнымі і ўсходнімі землямі Беларусі, якія мелі ўжо і сваю этнанімічную назву - «Белая Русь».

Напрыклад, беларуская народная песня, якая ўслаўляла буйную перамогу гетмана Астрожскага над маскавітамі ў 1514 годзе, сведчыць: «Слава Воршы ўжо ня горша сярод мест літоўскіх». Згодна летапісу XVII стагоддзя адзін з гарадоў-фартэцый, заснаваных Іванам IV (Жахлівым) на акупаванай Полаччыне, быў «от литовских городов от Лепля пол - 30 верст, от Лукомля 20 верст». Апавядаючы пра рэйд невялікага варожага аддзела на Смаленшчыну ў 1565 годзе, маскоўскі летапіс адзначае, што гэта былі «литовские люди», а затым удакладніў: «мстиславцы и кричевцы».

Ну а як называлі сябе самі жыхары тагачаснае Беларусі? Можна прывесці мноства прыкладаў, калі сярэднявечныя беларусы выкарыстоўвалі вызначэнне «ліцьвін» менавіта як саманазву. Полацкі студэнт Францішак Скарына ў Кракаве запісаўся «ліцьвінам», беларускі гуманіст XVI стагоддзя М.Цішкевіч (аўтар трактату «Пра норавы татараў, ліцьвінаў і маскавітаў») паўсюль падпісваўся Міхалонам Ліцьвінам. Простыя сяляне і гараджане сярэднявечнае Беларусі, захопленыя царскімі войскамі, называлі сябе ў Маскве «літоўскімі пашаннымі людзьмі розных гарадоў беларусцамі». Кожны паасобку запісваўся так: «ліцвін беларусец Ашмянскага павету», «літоўка беларуска Мсціслаўскага павету» і г.д. Сваю зямлю палонныя беларускія шляхціцы таксама называлі Літвою. І нават А.Філіповіч, гэты апантаны змагар за адыход Беларусі «пад высокую руку» праваслаўнага маскоўскага цара, нават ён у 1667 годзе месцазнаходжанне Куцеінскага манастыра, адкуль пісаў, называў Літвою, а гэта ж - «міля ад Пінска».

Але сама цікавае, што і беларускую мову - дзяржаўную мову Вялікага Княства Літоўскага - тады называлі літоўскаю. Яшчэ чэшскі тэолаг Геранім Пражскі, пабыўшы пры Вітаўце місіянерам у Княстве, пісаў, што ў гэтай дзяржаве «мова народа ёсць славянская», а паводле назвы дзяржавы яе называюць «літоўскаю». Вось як сведчыць пра гэта выпадак, апісаны ў Актах Маскоўскае дзяржавы (запіс 1618 года): «... выехали из деревни человек с пятнадцать, а на них магерки литовския, и почали им говорить по-литовски: не утекайте-де!» Або іншы прыклад. Беларускі асветнік Л.Зізані ў 1626 годзе па заказе патрыярха напісаў праваслаўны «Катэхізіс» і растлумачыў у ім назву самога твора так: «по-литовску это оглашение, русским же языком нарицается беседословие». Праз год сам маскоўскі цар пытаўся ў яго: «По литовскому языку как вы говорите «собра»?», на што асветнік адказваў: «Тожде и по литовскому языку «собра».

Як дзяржаўная мова магутнай некалі Літвы - Вялікага Княства Літоўскага, беларуская мова яшчэ і ў XVIII стагоддзі нягледзячы на інтэнсіўную паланізацыю краю, і на захадзе - для Польшчы, і на ўсходзе - для Расейскай імперыі, - заставалася «літоўскаю». І адданы новай валадарцы Кацярыне II праваслаўны ўладыка В.Садкоўскі пагражаў беларускім святарам на слуцкім епархіяльным саборы: «Я вас скорэню, знішчу, штоб і языка не было вашого проклятого літовского і вас самих; я вас у зсылкі парассылаю альбо ў салдаты пааддаю, а сваіх з-за кардону панавожу!»

Назве «Літва» ўжо хутка як тысяча гадоў.

Летапісцы сведчаць, што ў XII стагоддзі плямёны, якія насялялі Літву, залежалі ад Полацка і плацілі яму даніну. Далёкі Кіеў падпарадкаваў сабе толькі частку гэтай зямлі. Літва вылучалася тады ваеннай актыўнасцю. Крыніцы паведамляюць пра шматлікія супольныя паходы палачанаў і літоўскага войска на Смаленск, Пскоў, Ноўгарад. Калі была неабходнасць, Полацак прапускаў літоўскія дружыны праз сваю тэрыторыю. Толькі ў XIII стагоддзі паміж Полацкім княствам і Літвою пачалі ўзнікаць нейкія канфлікты. Віцебскія, менскія і турава-пінскія князі таксама выкарыстоўвалі ваенны патэнцыял Літвы ва ўласнай палітыцы, наймалі літоўскія войскі для сваіх паходаў.

Літоўскія даследчыкі лакалізуюць літапісную Літву ў межах Аўкштайціі - усходняе часткі сучаснай Літвы. Яны сцвярджаюць, што ўзгоркі і нізіны Аўкштайціі і сталіся калыскаю старажытнай літоўскай дзяржаўнасці, што ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага адбывалася праз заваяванне славянскіх земляў безумоўна балцкаю Літвой. І нарэшце, - што з этнічнага пункту погляду Княства складалася «з двух процілеглых элементаў - пануючага літоўскага і падпарадкаванага рускага» (Г.Лаўмяньскі).

Такія пастулаты, не ўважаючы на іхнюю відавочную хісткасць і слабую абгрунтаванасць, ужо не першае дзесяцігоддзе задавальняюць і ўсю савецкую афіцыйную гістарыяграфію. Супроць гэтых стэрэатыпаў адважыўся выступіць беларускі гісторык Мікола Ермаловіч. Прааналізаваўшы тэксты летапісаў і тапаніміку, ён паказаў, што ў XII-XIII стагоддзях Літва знаходзілася не ў Аўкштайціі, а на тэрыторыі сучаснай Беларусі, у басейне верхняга Нёмана. На поўначы па Бярэзіне яна межавалася з Полацкім княствам, на ўсходзе - з Менскім, на поўдні мяжа яе праходзіла па Шчары, а на захадзе - па рэках Мышанка і Валоўка, якія аддзялялі Літву ад ятвягаў.

Летапісная Літва месцілася якраз паміж асноўнымі этнічна беларускімі землямі - Полацкай, Турава-Пінскай і Новагародскай. Яна і дала назву Вялікаму Княству Літоўскаму - сярэднявечнай дзяржаве, ядром якой была наша Беларусь. А існавала Княства амаль пяць стагоддзяў.

Ці была Беларусь «заваяваная літоўскімі феадаламі», ці былі беларусы «падначаленымі» ў вялікай Літве - Вялікім Княстве Літоўскім? Факты супярэчаць гэтай замшэлай імперскай версіі. У сапраўднасці да заняпаду Княства Беларусь увасабляла ў ім свой суверэнітэт. І гістарычная назва «Літва» для яе не менш, а нават больш свая, чым для Аўкштайціі і Жмудзі, бо менавіта на беларускіх землях нарадзілася, пашыралася і ўмацоўвалася гэтая назва, а на тэрыторыю Аўкштайціі яна перайшла пазней. Што да Жмудзі, дык яна заўсёды была адасобленая ад Літвы. Яшчэ ў XIII стагоддзі паміж ёю і Літвой пралегла цэнь варажнечы. Як асобную і нярэдка варожую да Літвы зямлю разглядаў яе храніст Пётр Дюсбургскі ў сваёй «Хроніцы Прускай зямлі» (1326). Такой бачыў Жмудзь вялікі князь Вітаўт. У дакументах 1506 года пра межы дзяржавы з Лівоніяй Жмудзь выдзелена з Літвы як самастойная зямля. Самі жмудзіны ў XVI стагоддзі чынна змагаліся, каб вялікі князь пацвердзіў непарушнасць старых межаў, якія аддзялялі Жмудзь ад Літвы.

Але ці магло такое адбыцца - каб назва нейкага там племя так мяняла сваё значэнне, пераходзіла на магутныя дзяржавы і велізарныя тэрыторыі? - засумняваецца скептык. А вось магло. І гісторыя ведае нямала такіх прыкладаў. Заваяваныя нямецкімі рыцарамі прусы - нешматлікія балцкія плямёны, якія жылі паміж Віслаю і Нёманам на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, далі сваю назву вялікай нямецкай дзяржаве Прусіі. А слова «рымлянін», якім спачатку мог звацца адно «грамадзянін поліса Рыма», у часы Рымскае імперыі азначала ўжо ўсіх італікаў і нават людзей нелацінскага паходжання - жыхароў правінцый. Калі ж хрысціянства зрабілася дзяржаўнаю рэлігіяй імперыі, усе прыхільнікі афіцыйнага вераванання склалі адну вялікую супольнасць візантыйцаў, аднак самі сябе яны лічылі «рамеямі», а гаварылі па-грэцку. Хоць сярод гэтых «рамеяў» былі і славяне, і сірыйцы, і армяне... Нарэшце, у XIX стагоддзі далёкія нашчадкі былых падданых Рымскае імперыі, высланых некалі на тэрыторыю Дакіі, назвалі сябе румынамі, што таксама значыла «рымляне».

Сёння мы павінны зразумець, што мы страцілі разам са сваёй гістарычнай назваю Літва; што разам з назваю набыла сучасная Літва, якая ў Вялікім Княстве Літоўскім мела іншую назву - Жмудзь і Аўкштота.

Літва набыла падмурак кансалідацыі, адзінства свайго народа - багатую гісторыю, а значыць, і будучыню. Мы ж атрымалі поўную блытаніну ва ўласнай гісторыі і сучаснасці, бо само слова *Літва* (за якім нашыя 500 гадоў) мы ўспрымаем сёння як нешта асобнае ад нас і чужое. Як чужую ўспрымаем мы і Вільню - калыску беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры, нашу старажытную сталіцу. Што такое ў беларускай мове *Вільнюс*? Тое самае, што Дэлі, Сант'яга або Ганалулу...

І як абсурдна выглядаюць колішнія прэтэнзіі Вярхоўнага Савета БССР на *Вільнюс*!..

Сёння Літва і Літва - два розныя паняцці. Першае - гістарычнае, якое адносіцца да сучасных беларусаў. Другое - сучаснае, датычнае гістарычных жмудзінаў і аўкштотаў.

Трэба называць рэчы *сваімі* імёнамі. А сваё імя ў сучаснай Літвы - ЛЕТУВА. Саманазва сучаснага літоўца - ЛЕТУВІС. Пакінем, нарэшце, гістарычнае - гісторыі, а сучаснае - сучаснасці.

Дарэчы, каб пазбегнуць тэрміналагічнае блытаніны, польскі гісторык Ф.Канечны яшчэ ў 1929 годзе прапанаваў пад назваю «Літва» разумець усе землі Вялікага Княства Літоўскага незалежна ад этнічнае прыналежнасці насельніцтва, а неславянскую частку гэтае дзяржавы называць «Летува» - як яна называе сябе сама». Пра тое ж сведчыць і досвед беларускае эміграцыі, якая даўно выкарыстоўвае тэрміны: Летува, летувіс, летувіскі.

Вось жа ў выпадку з Руссю мы стол назвалі сталом хутчэй, чым у выпадку з Літвою. Словы «Расея» і «расейцы» ўжо досыць трывала замацаваліся ў беларускай мове. А «Русь» і «рускі» (ці «русін») мы разумеем як гістарычныя назвы Беларусі і беларусаў.

У поўнай згодзе з гісторыяй, якая і тут мае нямала сведчанняў.

Наша Беларусь застанецца. Пад гэтым імем ішло ўсё наша нацыянальнае адраджэнне новага часу. Гэтае імя знаходзім і ў гістарычных дакументах. Дый мы самі, сучасныя беларусы, прымаем яго як сваё, як крэўнае імя нашае Бацькаўшчыны. Але мы не павінны страчваць і нашыя гістарычныя назвы, нашы тыл і капітал, выразнае бачанне нашае тысячагадовае гісторыі.

Сапраўды ж узнікае недарэчная сітуацыя, калі, згадваючы Старажытнабеларускую дзяржаву - Вялікае Княства Літоўскае, сучасны беларускі гісторык мусіць як быццам выбачацца і кожны раз тлумачыць, што і мы, беларусы, маем да гэтага княства нейкае дачыненне; або пісаць поўную назву Княства - Літоўскае, Рускае, Жмудскае... быццам такі пералік робіць праблему больш зразумелаю.

Пісаць сёння: літоўска-беларуская дзяржава, літоўска-беларускія князі, літоўска-беларускае войска г.д. - калі гаворка ідзе пра сярэднявечча - недарэчнасць. Паводле сярэднявечнае тэрміналогіі трэба пісаць: літоўска-руская або проста літоўская, а паводле сучаснае тэрміналогіі - беларуска-летувіская дзяржава, войска, князі.

Аддзяліўшы ад сябе словы *Літва* і *Русь*, мы ніколі не разберамося, што ў нашай культуры нашае, а што чужое, дзе мы, а дзе не мы, адкуль мы, а адкуль іншыя. Мы проста не знойдзем у сваёй гісторыі сябе.

Трэба называць рэчы сваімі імёнамі. Гэта аніяк не сапсуе нашых дачыненняў з суседзямі. Доказ гэтаму - хоць бы й словы, выпісаныя намі з нумара канадскай беларускай газэты «Зважай»: «Віншуем Летувісаў, Латышоў і Эстонцаў! Няхай жывуць аднаўленыя незалежныя балтыйскія рэспублікі!»

Тут дзверы названыя дзвярыма.

*Сяргей ДУБАВЕЦ,*
*Генадзь САГАНОВІЧ*

# Між сваіх людзей

...Жыццё мае пачыналася, як і ў тысячаў беларусаў, што нарадзіліся ў 30-я. Галоднае і халоднае ваеннае дзяцінства з адной парай кірзачоў на трох, з балотнай вадой і праснакамі зь перамерзлай бульбы, сабранай зь веснавых палеткаў, з сушаным гарохам у драўляным цэбры на зіму і першым у жыцьці кавалкам хлеба са збожжа, употайкі ад усіх выпеставанага бабуляй на лясной палянцы, зь зямлянкай у тры накаты, побач са спаленай немцамі вёскай Прусавічы, што недалёка ад Плешчаніц. А потым — беларуская сямігодка ў мястэчку Будслаў, нейкім цудам не спаленым і не разрабаваным ні немцамі, ні партызанамі. Там і пачалося выхаваньне "савецкага" чалавека.

Дырэктар школы і большасьць настаўнікаў — расейцы, больш-менш адукаваныя людзі, якія па разнарадцы ўладаў або ратуючыся ад разрухі й голаду знайшлі тут прытулак ды кавалак хлеба. Мясцовыя жыхары першы час зь недаверам і нават варожасьцю ставіліся да ўсіх уцекачоў з усходніх раёнаў, нават да сваякоў. Але калектывізацыя зрабіла ўсіх роўнымі ў галечы.

У першыя ж дні калектывізацыі па начах пачалі зьнікаць самыя адукаваныя і працавітыя мужыкі і нават цэлыя сем'і, часам арышты адбываліся ўдзень, на вачах у людзей. Праз колькі год два-тры тыя мужыкі вярнуліся, а зьнікла ж больш за дзясятак.

У школе ў першыя пасьляваенныя гады панаваў дух казармы, а са стварэньнем піянэрскай і камсамольскай арганізацыяў зьявіўся і ўжо ніколі не зьнікаў акцэнт на расейскамоўе.

Маёй першай настаўніцай жыцьця была родная бабуля, якая пасьпела яшчэ патрымаць у руках сваю праўнучку, маю старэйшую дачку. Яна, мая бабулька-гаротніца, выратавала сваіх дзяцей і ўнукаў ад холаду і голаду вайны, яна прышчапіла нам любоў да працы. З ранку да цямна працавала яна ў калгасе і на беднай хатняй гаспадарцы. А доўгімі восеньскімі і зімовымі вечарамі пры лучыне і пад ціхае рыпеньне краснаў мы, ейныя дзеці і ўнукі, слухалі няхітрыя беларускія казкі, ня надта вясёлыя размовы старэйшых пра жыцьцё-быцьцё... Мы слухалі першародную беларускую мову, бабуліну мову.

Маёй першай школьнай настаўніцай была Паўліна Мядзёлка — прыгожы і сьветлы чалавек. Яе вуснамі ўпершыню прагучэў для нас Купала і Колас, Багдановіч і Пушкін. "Новая зямля" і *"Евгений Онегин"* ад пачатку і да канца за некалькі школьных гадзінаў былі прачытаныя па памяці з уласьцівым ёй артыстызмам. Гадзінамі, хаваючыся, глядзеў я і слухаў рэпэтыцыі мястэчковай самадзейнасьці, дзе спд. Паўліна кіравала хорам-а-капэлa з расейскім, польскім і беларускім рэпэртуарам, ставіла "Паўлінку", "Хто сьмяецца апошнім", *"На всякого мудреца довольно простоты"*, шмат іншага. Мястэчковы клюб ніколі не зьмяшчаў ахвотных паглядзець-паслухаць канцэрты й спэктаклі, пакуль была жывая спд. Паўліна. Значна пазьней, з выпадковых публікацыяў, даведаўся аб яе жыцьці і лёсе больш...

Засталіся ў памяці настаўнікі-беларусы, тутэйшыя маладыя людзі, якія пасьля навучаньня ў пэдагагічных установах вярнуліся ў родныя мясьціны і ўсё сваё жыцьцё працавалі ў мясцовай школе. Увасабленьне сьціпласьці і стрыманасьці, разумніца і прыгажуня, матэматык Ганна Хацяновіч, якая першы час міла чырванела ў складаных школьных абставінах; настаўнік ангельскай мовы Леў Яновіч — узор сапраўднага мужчыны, што ні сабе, ні навакольным не дараваў расхляба- насьці й сваволства. Або старэйшыя настаўнікі: кумір і страх старшаклясьнікаў Стэфанія Мацяшак; мудры і гумарны географ Генадзь Фрыд, урокі якога заўжды праходзілі лёгка і весела. Настаўнікі вучылі нас, дзяцей вайны, паважаць старэйшых, жанчынаў, незалежна ад веку, асабістым прыкладам выхоўвалі працавітасьць і пачуцьцё адказнасьці за свае ўчынкі. Яны былі для нас узорам адукаванасьці, інтэлігентнасьці і чалавечай годнасьці.

З настаўнікаў-расейцаў запомніўся толькі Паўлаў па мянушцы Скам (ад манеры казаць "скажем") — першы пасьляваенны дырэктар школы, які вечарамі нападпітку наводзіў "порядок" вакол школы і клюбу з дапамогай рэвальвэра на скураным раменьчыку, якім карыстаўся як зручнай жалязякай; ды настаўнік фізычнага выхаваньня, галоўнымі пэдагагічнымі сродкамі якога былі афіцэрская дзяга ды расейскія брудныя мацюкі. Ягоныя занятк пa кулявой стральбе зводзіліся да зьнішчэньня варонаў ды галубоў на вежах касьцёлу, калі там пачыналася набажэнства.

Зь цікавасьцю слухаў я на прасторным ганку сельскай крамы вячэрнюю гамонку і жарты вяскоўцаў, закіды Паўліны Мядзёлкі свайму сябру па культурна-асьветніцкай працы, майму бацьку, з амаль заўсёдным рэфрэнам: "Алесь! Ня пі!". А бацька, не знаходзячы разумных аргумэнтаў, каб выправадацца, адбіваўся словамі Сьцяпана Крыніцкага з "Паўлінкі". І гэта былі такія міні-спэктаклі! Ніякая другая мова, акрамя беларускай, не змагла б перадаць той гумар, тую мудрасьць і годнасьць тутэйшых людзей. А крыху пазьней, калі я вучыўся ў Менску, бацька "прадставіў" мяне сваім сябрам па Купалаўскім тэатры — Глебу Глебаву і Ўладзімеру Дзядзюшцы. Асабістa на мне ўвага спыненая не была, бо калі пасьля сяброўскіх абдымкаў і пацалункаў у цесную каморку пад лесьвіцай тэатру пачаў зьбірацца вольны ад спэктаклю народ і Ўладзімер загрымеў нечым шкляным, Глеб Глебаў мякка сказаў: "Ідзі, хлопчык, у залю, там ужо пачынаецца..." З таго часу Купалаўскі тэатар на доўгія гады стаўся мне родным і быў найлепшай беларускай школай...

У сталыя гады, калі ўжо і думаў па-расейску і па жыцьцёвых абставінах больш за дзесяць гадоў жыў і працаваў у Прыбалтыцы, часта з задавальненьнем слухаў радыётэатральныя пастаноўкі да болю роднымі галасамі Глебава, Дзядзюшкі, Ржэцкай. Аднойчы ў часе рэдкага адпачынку ў Крыме, на канцэрце "Верасоў", калі гучала іхная візытоўка пра Беларусь, вымушаны быў нізка схіліцца ў крэсьле ды закрыць твар далонямі: зашчымела сэрца, вільготнымі зрабіліся вочы... Жонка і дачка доўга дапытваліся, што здарылася, а я нічога ня змог адказаць. Урэшце кінуў гадамі наладжаны дабрабыт і вярнуўся на Радзіму.

Пачуцьцё сораму і няпаўнавартасьці я як беларус перажыў гадоў пятнаццаць таму, калі на будоўлі, дзе працаваў, маладая інтэлігентная жанчына на чыстай беларускай мове запытала мяне аб тэрміне заканчэньня будаўнічых работ. Прывітаўся і адказаў таксама па-беларуску, але потым гамонка, якая па маёй ініцыятыве расьцягнулася амаль на гадзіну, далася мне цяжка: пасьлядоўнасьць працавала па-расейску. Мой моўны "спатыкач" быў успрыняты суразмоўніцай тактоўна і спакойна. Не памятаю зьместу размовы, але яе форма — размова беларусаў на сваёй роднай мове — засталася ў памяці як сустрэча зь нечым радасным і сьветлым.

Грэлі душу размовы з маленькімі ўнукамі, якія пачалі хадзіць у беларускі садок. Але нядоўга гэта было, яны ўжо "рускія".

Амаль сваім чалавекам стаўся Станіслаў Шушкевіч, якога колькі разоў раніцай сустракаў, ідучы на тралейбусны пры- пынак: ён тады яшчэ жыў у нашым мікрараёне. Хапала сьмеласьці толькі вітацца, а як хацелася пагаманіць! Наколькі ён быў годным дзяржаўным кіраўніком, настолькі ж і слабым палітыкам для таго складанага часу і сярод той кампартсавецкай зграі, што гуртавалася каля ўлады. Цяжка і сумна было бачыць, як яго, сумленнага і інтэлігентнага чала- века, скублі і елі "народныя" дэпутаты, а найбольш імпэтна і прыкра гэта рабіў цяперашні "народны прэзыдэнт".

Сваімі былі амаль усе людзі, якія ў лістападзе 96-га зьбіраліся на плошчы Незалежнасьці, дзе побач, у Доме Ўраду, вырашаўся лёс Радзімы, але былі падман і здрада...

Цяжка, а потым агідна стала слухаць і глядзець беларускае радыё і тэлебачаньне. Учорашнія вясковыя дзяўчаты і хлопцы ад мікрафона і тэлекамэры рабіліся кавалёвымі, чайкамі, зімоўскімі, дудзінавымі, азаронкамі. Калі тое, што яны агучваюць, на самой справе іхняя перакананьні, то ўражаньне такое, быццам гэтыя людзі дасёньня ня ведаюць аб краху Савецкай імпэрыі.

Брыдка ад таго, што ўчарашнія беларусы пад ціскам пятай калёны здрадзілі сваёй мове, што ўсё гэта робіцца па правілах гульні ў адны вароты, што за мой кошт гэты бруд і мана ўзьдзейнічаюць на сьвядомасьць маіх унукаў і лічацца дзяржаўнай ідэалёгіяй.

**Не зусім разумею моўную палітыку некаторых апазыцыйных газэтаў, у першую чаргу "Нашай свабоды" і "Народнай волі", дзе амаль палова матэрыялаў друкуецца па-расейску. Такая пазыцыя не падобная да выхаваньня нацыянальнай сьвядомасьці чытача-беларуса — у гэтай найважнейшай на сёньняшні дзень справе першым ёсьць слова.**

Шкада кіраўнікоў прадпрыемстваў і чыноўнікаў, якія слупянеюць і губляюць мову перад мікрафонам ці тэлекамэрай: ня ведаюць ні сваёй, ні расейскай: "Со сто сімнаццаць паросят за нехваткі фондав пагібло сорок одін". Узялі б прыклад з Лукашэнкі, які пару год таму, калі яго дапяклі "жэншчынамі", запрасіў спэцыялістаў, пазаймаўся шыпячымі і сьвісьцячымі, мяккімі і цьвёрдымі і зараз прамаўляе ня горш за "выдатніка" расейскай мовы Дудзінава. Але гавары ён хоць па-ангельску, нешта ня тое робіцца з намі, калі адзін чалавек вырашае лад жыцьця і лёс беларусаў, добрай палове зь якіх сорамна прызнацца сабе, хто мы такія і чым розумам жывем. Другая палова пра тое ня думае, чарка ды шкварка — кола іхных інтарэсаў...

Зь нецярплівасьцю чакаю, каб прысьніўся прэзыдэнт Беларусі, якім можна было б ганарыцца... Чакаю вяртаньня на Радзіму Васіля Быкава, каб сустрэць і папрасіць прабачэньня... Хачу зразумець, чаму ў Японіі не існуе таварыства японскай мовы... Як навучыць другую палову беларусаў думаць... Чаму млеюць жанчыны ад Адама Глёбуса, і, наагул, хто ён такі...

**Уладзімер Лубнеўскі, Менск (Н.Н.)**

*************************************

# Краіна непалоханых вавёрак

Якімі б прычынамі ні была выкліканая эміграцыя, яна заўсёды пачынаецца з шоку. Незалежна ад таго, добрымі ці кепскімі былі твае першыя ўражаньні на чужой зямлі. Відаць, гэты шок спараджаецца ўсьведамленьнем, што жыцьцё перамянілася незваротна. Што ты сам, з сваёй волі ўзяў і выдраў сябе за валасы са звыклай глебы. І цяпер невядома, як і зь якога боку прырастаць каранямі да іншага грунту.

Два месяцы пасьля пераезду — гэта стан, калі ў хаце ўжо гудзе кандыцыянэр, але яшчэ няма кампутару (зрэшты, магло быць і наадварот: папросту адно з двух удалося набыць таньней і хутчэй). Калі ў гародніннай краме ўжо лёгка адрозьніваеш спаржу ад шпінату, але яшчэ ня ўмееш прыгатаваць ні таго, ні другога. Калі, нарэшце, больш ня блытаеш, цягнуць ці пхаць дзьверы, на якіх напісана *"Push"*, але яшчэ не даюцца тэлефонныя размовы па-ангельску, і таму спроба дазваніцца да кабэльнага тэлебачаньня сканчаецца роспачным кіданьнем слухаўкі. (Зь іншага боку, два месяцы зь непадлучаным тэлевізарам могуць разглядацца як здаровы інфармацыйны пост. Які нечакана сканчаецца не з маёй волі: стаміўшыся чакаць працягу размовы, пэрсанал кабэльнага ТБ сам вылічыў "ньюкамэра", і пару дзён таму ў нашу кватэрку без запрашэньня завітаў тэлемайстар, які за пяць хвілін наладзіў 29 каналаў — мясцовы мінімум.)

Якімі б прычынамі ні была выкліканая эміграцыя, усе імігранты маюць прынамсі адну супольную рысу — яны трошкі авантурысты. Інакш, без драбочка гэтай самай авантурнасьці, як ты наважышся распачаць жыцьцё нанова? Безь сяброў і сваякоў, без улюбёных кніжак, без напалову сьпілаванага каштана пад акном, бяз тысячы звыклых і зручных дробязяў — напрыклад, без свайго цырульніка, якому нічога ня трэ было тлумачыць. (А тут цырульніца-віетнамка, нават пасьля шматразовага тыцканьня пальцам у каталёг, арганізавала на маёй галаве нейкі дзікі "юнісэкс"...) Як ты наважышся адмовіцца ад усяго, што нібы ўжо належыцца мець чалавеку пад сорак гадоў (пераважна такі век маюць мае "аднаклясьнікі" на бясплатных курсах ангельскай мовы

для прыбышоў): ад пасады, імя, прафэсіі, кар'еры — і быць гатовым яшчэ шмат гадоў вучыцца, перавучвацца, давучвацца, адначасова зарабляючы на жыцьцё працай у пякарні, на будоўлі, у краме…

Эміграцыя — заўсёды экспэрымэнт на сабе. Шмат разоў паўтараны і досыць падрабязна апісаны ў літаратуры, але ад таго ня менш захапляльны. Забаўна, напрыклад, назіраць, як іранічна-грэблівае стаўленьне да "беларускіх сувэніраў", што гадамі пыляцца ў ГУМе ці "Паўлінцы", раптоўна замяняецца на прачула-замілаванае. І вось ужо саламяная птушка, набытая на ўсялякі выпадак, у падарунак невядома каму, беражліва стаўляецца на ўласную кніжную паліцу, а керамічныя талеркі з краявідамі Беларусі займаюць ганаровае месца ў чырвоным куце…

…З аэрапорту таксоўка прывезла нас у матэль з кіношнай назвай *"The Silver Moon"*, "Срэбны месяц", на самым беразе возера Антарыё. Быў цёплы майскі вечар, цьвіў бэз, пахла сьвежаскошанай травою. У кветніку скакала непужлівая чорная вавёрка. Па адмысловай дарожцы ўздоўж возера на роліках і на роварах каціўся народ. Я асьцярожна разгледзелася й ціхенька сказала сабе: цяпер гэта твая краіна. Словы нікуды не паляцелі, яны застылі ў паветры. Вавёрка паглядзела на мяне зь ідавочным дакорам. Але я, далібог, ня ведаю іншага спосабу зразумець нешта, апроч як спачатку палюбіць яго. Менавіта ў такой пасьлядоўнасьці.

Палюбіць гэтыя краявіды — такія звыклыя, такія беларускія… пакуль не натыкнешся вокам на дрэва з карой, як у нашай таполі, але зь лісьцікамі рыхтык як у заечай капусты. У гэтую хвіліну ты будзеш думаць пра нешта іншае — магчыма, вучыцца пераводзіць Фарэнгэйта ў Цэльсія — і таму сьвядомасьць зрэагуе не адразу, а падсьвядомасьць закрычыць першая: што робіць заечая капуста на дрэве? На што сьвядомасьць, адарваўшыся ад матэматыкі, мэлянхалічна зазначыць: сьціхні, мы ўсе тут жывем дагары нагамі…

Палюбіць гэтыя прыватныя домікі, зь якіх на 90% і складаецца Таронта — малюпасенькія, нібы лялечныя, што стаяць блізка-блізка адзін да аднаго, зь іх стрыжанымі газонамі памерам з далонь, нізкай стольлю і дахам, недарэчна насунутым на самыя вокны, — і чаму ў неабсяжнай Канадзе так эканомяць на плошчы? (Дзеля эканоміі гэтай самай плошчы мы купілі дзецям двухпавярховы ложак. І собіла ж нам сабраць адзін ярус у дзіцячым пакоі, а другі, дзеля зручнасьці, — у суседнім! Хто ж бы думаў, што ў канадыйскі калідор не пралазіць нават палова сабранага дзіцячага ложка…)

Палюбіць гэтае гарачае вільготнае лета, якое немагчыма пераважыць без кандыцыянэра ці хаця б вэнтылятара ў хаце. Штовечар узгадваецца Багдановічава — "Ціхі вечар; зьнікнула сьпякота…" Гэта — дакладна не пра таронцкі ліпень, сьпякота тут ня нікне. А дзявятай вечара сядзіш на самым беразе рэчкі і зусім не адчуваеш палёгкі. Уначы нагрэтае нерухомае паветра хочацца скінуць нагамі, як цяжкую коўдру. Да яго, да гэтага невыноснага лета, ці можна прызвычаіцца? І ўсё ж і яно вымагае любові…

Палюбіць канадыйскі "народ" — дзіўную мешаніну адценьняў, звычаяў, строяў і стравах — ужо за адно тое, што яму таксама падабаюцца чырвоны і белы колеры. (Можа, гэта і ня казкі, што канадыйскі сьцяг дапамагалі распрацоўваць тутэйшыя беларусы?) Дзяржаўныя колеры тут надзвычай папулярныя. Чырвоны пас на белых баках таронцкіх аўтобусаў — якраз пасярэдзіне. Калі едзеш, побач з табою ў вокнах дамоў заўсёды плыве бел-чырвона-белы сьцяг…

Палюбіць яе, гэтую нязнаную краіну Канаду, хоць бы таму, што менавіта тут мае дзеці ўпершыню ўбачылі "беларускае Купальле" (няхай і моцна стылізаванае), а я на тым самым Купальлі таксама ўпершыню ў жыцьці — сьветлякоў. Забыўшыся на ўсё, мы стаялі і доўга глядзелі на сотні і сотні жывых агеньчыкаў, на гэты неверагодна прыгожы фаервэрк, і вяночкі на галовах маіх дзяўчат пахлі зусім наскімі кветкамі — рамонкамі і канюшынай.

Краіна непалоханых вавёрак — амаль уся наша плянэта ў мініятуры. Тут ёсьць свой вялікі "Чайнатаўн", шматлікія польскія крамы, украінскія цэрквы, расейскія газэты, габрэйскія дантысты, нямецкія духавыя аркестры і лацінаамэрыканскія карнавалы… Тут няма, на жаль, амаль нічога беларускага, шырока вядомага па-за межамі Згуртаваньня Беларусаў Канады. І сакрамэнтальная фраза пра геаграфічнае становішча тваёй краіны — "бітвін Поланд энд Раша" — будзе адной зь першых, якую ты навучышся гаварыць па-ангельску бегла. Хаця сам па сабе факт, што вышэйпамянёнае Згуртаваньне дагэтуль існуе, — ужо цуд небывалы, бо старых беларусаў, якія закладалі гэтую арганізацыю ў пасьляваенныя гады, засталося адно жменечка. Я напішу пра іх абавязкова — і пра старых, і пра маладых канадыйскіх беларусаў, напішу і пра многае іншае — тэмаў для артыкулаў тут нямерана. Напрыклад, іміграцыя і мова, іміграцыя і дзеці. Альбо — агляд мясцовага друку… Але галоўнае пакуль — менш узгадваць.

**Віялета Кавалёва**, Таронта (Н. Н.)

# ПАД ЗНАКАМІ АРЛА Й ПАГОНІ

Яшчэ й цяпер гісторыкі літаратуры лічаць, што першым сьвядомым беларускім пісьменьнікам новага часу быў Францішак Багушэвіч, што быў ён нацыянальным патрыётам, заклікаў да адраджэньня Беларусі. Але гэта, аказваецца, далёка ня так, не яго трэба лічыць бацькам нашага патрыятызму, а Яна Чачота, таго самага сябра Адама Міцкевіча.

Вучоныя адкрываюць невядомыя дагэтуль матэрыялы, распыленыя па ўсім сьвеце, якія йначай асьвятляюць беларускае XIX ст. Яно не было аж настолькі сумна ніякаватым, як нам здаецца. Ведаем ужо - беларуская ідэя ўзьнікла ў напалеонаўскія войны, і трэба вязаць яе зь дзейнасьцю групы г.зв. паповічаў: Баброўскага, Даніловіча й іншых, што сфармавалася вакол манастыра ў Супрасьлі й навукова грунтавалася на прафэсарскіх катэдрах Віленскага Ўнівэрсытэту.

Ян Чачот нарадзіўся, калі Рэч Паспалітая зьнікла з палітычнай мапы Эўропы. Вялікае Княства Літоўскае анэктавала Расейская імпэрыя. Як і Міцкевіч, якому быў ён амаль равесьнікам, паходзіў з тае-ж Навагрудчыны, рэгіёну ў культуры Беларусі надта знамянальнага, унікальна багатага талентамі. Будучы зь беднага роду засьцянковай шляхты ў вёсцы Малюшычы, не пашанцавала Чачоту ў жыцьці. Ня меў ён за што скончыць унівэрсытэту, а стаўшы адным з арганізатараў тайных студэнцкіх таварыстваў філяматаў і філярэтаў, пасьля іх выкрыцьця паліцыяй трапіў пад сьледства ды ў ссылку на Урал. Слабое здароўе ня вытрымала расейскай катаргі - захварэў ён сухотамі, якія й зьвялі яго без пары з гэтага сьвету на пяцьдзесят першым годзе жыцьця. Вярнуўся Ян Чачот на радзіму слабым і заўчасна састарэлым чалавекам.

Ягоны сардэчны сябар, Адам Міцкевіч, жыў тады ў Францыі й Швайцарыі, пісаў свайго „Пана Тадэвуша" ды рабіў цывільную кар'еру, не наракаючы на хлеб.

Як трэба глядзець на спадчыну, якую пакінуў Ян Чачот? Перш за ўсё, ён фальклярыст; зьбіраў народныя песьні. Але паўстае пытаньне: нашто-ж перакладаў іх на польскую мову? Ці толькі дзеля выгады па-польску выхаваных чытачоў зборнікаў? Чачот пісаў таксама ўласныя вершы. Звычай гэтак-жа на польскай мове, як і іншыя паэты тадышняе зямлі беларускай. Аднак, ня так мала стварыў ён іх і па-беларуску альбо па-крывіцку (паводле ягонага тэрміну). Разгадку польска-беларускага парадоксу ў асобе Чачота знаходзім у яго прадмовах да кніжак з тымі песьнямі з-над Нёмана ды Дзьвіны. Упершыню гэта ён апублікаваў у папулярнай форме навуковую характарыстыку некаторых асаблівасьцяў нашай мовы, надаўшы ёй надзвычай арыгінальнае ды гістарычна абгрунтаванае імя, назву крывіцкай, якая потым бытавала ў нацыянальнай свядомасьці, але канчаткова не прынялася, уступіўшы больш пашыранай беларускасьці, нэйтральнай плямёнам, якія склалі народ Беларусі: трохадзіным Крывічам, Дрыгавічам, Радзімічам.

Дзякуючы публікацыям Яна Чачота пачалося паглыбленае разуменьне ў грамадзтве асобнасьці тутэйшае гутаркі, яе вялікага мінулага ў былой Літве, адрознай ад расейскай, украінскай і польскай. Разам з тым ён ня верыў у ейную рэальную будучыню, здольнасьць выйсьці ў роўныя сярод роўных. Успрымаў як безнадзейна занядбаную, неразьвітую, засушаную ў прымітывізьме, хоць і жывую ў штадзённым побыце нават у вялікашляхоцкіх дварах. У далейшым цывілізацыйным руху наперад яна саступіць месца польскай, - цьвердзіў Чачот - і шкада будзе, каб здарылася тое бясьсьледна, бо-ж гэта вартая сьвятой памяці традыцыя... Пеpажываючы за лёс роднай зямлі, але й Польшчы, лічачы сябе Крывічом, але й Палякам, ён таму й рабіў тыя пераклады, каб прынамсі трохі выратаваць дзеля незабыўнага гонару будучых пакаленьняў унукаў і праўнукаў, якім ужо няўцям будзе нешта выслухаць аўтахтоннае...

Дык дзе-ж тут супярэчнасьць з Францішкам Багушэвічам? Ён змагаўся, а не як Чачот плакаў над прапажаю роднага, заклікаў цьвёрда не пакідаць мовы беларускай?!... Нельга забываць, што Ян Чачот жыў і дзейнічаў у эпоху зусім непадобную да тае, у якую зьявіўся менавіта Багушэвіч. Бязьвітасная паншчына працягвалася яшчэ пятнаццаць гадоў пасьля ціхае сьмерці Чачота. Селянін не трактаваўся як чалавек, не кажучы пра яго грамадзянства: жыў у голадзе, хадзіў і ў трантах, брудзе ды ў курнай хаце, мала чым іншай ад хлява. Народам, нацыяй, была тады толькі шляхта, а ўся яна ганарылася польскасьцю. Чачот невыпадкова параўноўвае сытуацыю да вельмі бедных і гаспадарча беспэрспэктыўных акругаў брытанскіх астравоў і заходу Францыі, дзе паступова выміраюць... Кожны пяе ў свой час. Няма разумнейшых за свае леты. Гэты сэнтымэнтальны інтэлігент і патрыёт краю ня мог прадбачыць рэвалюцыяў і выхаду земляроба з рабочым на гістарычную арэну. Абсалютную дамінацыю польскай культуры ў Беларусі, ейную адзінасьць на гэтай тэрыторыі зламаў прыход капіталізму. Упадак фэадальных двароў, устанаўленьне сялянскіх гаспадарак, местачковых фабрык, разгром Студзенскага паўстаньня абазначаў канец перавагі тут усяго польскага. Таму гэта Францішак Багушэвіч, праз паўвеку пасьля, ставіў заданьне капітальнага значэньня: мала любіць песьню матчыную, трэба Беларусь адбудоўваць, ставіць яе на ногі з каленяў! Прыхільная яму слаўная Марыя Канапніцкая гаварыла: над Нёман і Дзьвіну ня вернецца Польшча, сюды прыйдзе Беларусь! Але, ня будзь раней Яна Чачота, наўрад ці вынікнуў-бы сярод зацюканага люду фэномэн Багушэвіча й яго пасьлядоўнікаў: Купалы, Коласа, Багдановіча, зорнай плеяды Маладой Беларусі на ўзыходзе дваццацівечча.

***

У мікалаеўскую эпоху пачаўся дэмантаж польскіх культурных і палітычных структураў. Лістападаўскае паўстаньне закончылася ліквідацыяй знакамітае арміі Польскага Каралеўства, радыкальным абмежаваньнем ягонае аўтаноміі ў імпэрыі. Дагэтуль царскія ўлады трактавалі Беларусь як частку колішняе Польшчы, падпарадкоўваючы адміністрацыю мясцовых губэрняў Варшаве, падтрымліваючы ў яе колах надзеі на далучэньне іх ды спрыяючы паняцьцю г. зв. Забраных Земляў. Быў зачынены Віленскі Ўнівэрсытэт, а арганізаваныя ім школы паступова перайтвораны ў расейскія. З правінцыйных канцылярыяў была выведзена пальшчызна. Палянізацыю Беларускага Краю замяніла русыфікацыя. Але, пакуль трымалася паншчынная сыстэма, тыя антыпольскія пачынаньні імпэратара Мікалая I не парушылі істотным чынам усталяванага духоўнага аблічча Беларусі. Мужык надалей гнуўся пад польскім панам, а ў мястэчках і гарадох пераважаў жыдоўскі капітал поруч зь нямецкімі майстрамі ды мануфактурнікамі. Моўная, культурная сытуацыя ніяк не спрыяла разьвіцьцю карэннай нацыі, падставы для якой не зыходзілі далей за саламяную вёску. Былі яны бясправўнымі нявольнікамі ў ёй. Беларускую мову, праўда, ведалі ўсе, нават Немец і ягоныя памочнікі ў варштаце, і граф у маёнтку. Аднак была яна патрэбнай ім ня болей, каб усяго паразумецца з чорным чалавекам. Таму Ян Чачот сьлёзна жаліўся на яе забітасьць ды немінучую сьмерць. Рамантычнае вяртаньне да народнага нельга ўспрымаць даслоўна. Чачот прынамсі спрабаваў узвысіць селяніна, друкуючы непрыстойныя песьні, прымаўкі. Міц-

кевіч-жа не зрабіў анічога ў гэтым напрамку, прысвяціўшы свой талент апяяньню двара й касьцёла, паніча й палацаў, буйных застольляў і разбойных наездаў. Ён прасьпяваў разьвітаньне адыходзячаму сьвету, чамусьці зусім не прадчуўшы, што з канцом яго веку зьгіне шляхта, а неўзабаве дзяржава апынецца ў шурпатых руках шаўцоў, найміта ў і недавучаных сэмінарыстаў. Вялікі паэт аказаўся невялікім мысьліцелем, што ёсьць нормаю ў літаратуры (хоць, прыкладам, Юльюш Славацкі быў глыбейшы).

У 1840 годзе пачалося выкараненьне й рэдкіх яшчэ парасткаў наважытнае беларушчыны. Было забаронена карыстаньне ў тутэйшых судох Статутам Вялікага Княства Літоўскага. Пад страхам крымінальнай кары была ўведзена забарона назваў „Беларусь", „беларускі" ды прыдумана нашай айчыне штучнае азначэньне як Паўночна-Заходні Край, а мова прыніжана да рангу расейскай гаворкі. Годам раней было ініцыявана прымусовае аправаслаўленьне, часта пад казацкім тэрорам. Паблізу тае-ж чароўнае Навагрудчыны, у сэрцы старажытнае Літвы, паказаў сябе не абы-якім пісьменьнікам беларускай мовы, якраз пры жыцьці Яна Чачота, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (нараджаны ў 1808 годзе на Бабруйшчыне), сын яго міласьці Яна Марцінкевіча, падчашага наваградзкага. Заможны шляхціц на пару сотнях гектараў зямлі, якім ён быў у тую пару, ня мог не гарнуцца да ідэі аднаўленьня Польшчы, хоць і жыў, як на пана, вельмі дзіўна, бо спачуваў мужыку. У яго асобе значна выразьней бачым той чачотаўскі парадокс душы беларускага чалавека польскага выхаваньня, які не кіруецца эгаізмам, пераважае за долю роднага люду, бацькоўскай краіны. Такімі альбо падобнымі будуць усе яны, паэты позьнефэадальнай Белай Русі, паку ня выйдзе ў жыцьцё маладое пакаленьне разначынцаў і сялянскай паўінтэлігенцыі з багачоўскіх сялібаў, абмужычэлых шляхцюкоў. Пра іх няпроста гаварыць - заслужыліся для Беларусі фактычна мімавольна, не падумаўшы, што ўнукі заваююць ёй дзяржаўнасьць, „пачэсны пасад між народамі".

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч цікавіўся больш за ўсё тэатральным словам і сцэнічнай творчасьцю. Даў ён нашай культуры поўны спэктакль: прафэсійна напісаныя п'есы „*Залёты*" й „*Пінская шляхта*", вершаваныя апавяданьні й аповесьці, пераклады (м. ін. з „*Пана Тадэвуша*"). Зьдзівіўся-б Ян Чачот, што любая яму мова крывіцкая набыла ажно гэткага размаху пад пяром ягонага пасьлядоўніка! Але, на свой манер, зьдзіўляемся й мы, Марцінкевічавы прапраўнукі, што гэты бацька беларускай сучаснай літаратуры інтэлектуальна ня вырас па-за сьвядомасьць мовы й на практыцы заставаўся палітычным Палякам. У яго прыватную школку для вясковых дзетак хадзіў Антон Лявіцкі, будучы нацыянальны дзеяч і пачынальнік беларускай прозы, вядомы як Ядвігін Ш. Ён у сваіх успамінах згадваў потым, што нічога беларускага ня вынес адтуль, а й сам пан Вінцэнт ні словам не наважваўся ўзгадоўваць іх на патомкаў слаўнае бацькаўшчыны; у доме панаваў культ канфэдэраткі.

Для справядлівасьці трэба-ж дадаць, што даволі ідэнтычнае становішча паўтарыцца і ў сям'і Францішка Багушэвіча, але ўзровень таго ўжо будзе нашмат вышэйшым: стаўкай акажацца ня толькі тое, каб навучыць мужычанятаў чытаць і пісаць па-польску ды па-француску, як было гэта ў выпадку марцінкевічавага асьветніцтва. Нікога мы не павінны судзіць паводле сёньняшніх мерак.

І Ян Баршчэўскі, і Ян Чачот, і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, і Аляксандар Рыпінскі, пра якога пагаворым пасьля, і цэлы шэраг творцаў беларускага мастацкага слова за ўсе тры чвэрці дзевятнаццатага стагодзьдзя маглі быць найначай як дзяцьмі панскае Польшчы, выхаванкамі яе фэадальнай культуры, а на сваю беларускую творчасьць глядзелі як на шчырую, сардэчную спагаду да зьняволенага прасталюдзіна, выказваньне імі голасу душы ягонае. Характэрнае прытым, што творчыя здабыткі, таксама й Марцінкевіча, сталі шырока вядомымі як быццам па часе ў пэрыяд народзінаў нашага нацыянальнага руху пасьля 1903-5 гадоў. Пры іх-жа памяці ўсенька тое валялася ў шуфлядах з рукапісамі, зрэдку надрукаванае ў нейкім элітарным зборнічку... Так родзіцца немаўля, несьвядомае спачатку аб уласным існаваньні.

***Сакрат ЯНОВІЧ***

"Камунікат"

Сакрат ЯНОВІЧ

# УКРАІНСТВА Ў БЕЛАСТОЦКІМ КРАІ:

## *Ілюзіі за грошы*

Казаць пра нарадзіны Ўкраінскага руху ў Беластоцкім Краі можна толькі ўмоўна. У грамадзкім значэньні ён нават і не маргінальны; зводзіцца да групы фальклярыстаў ды аматараў украінскае мовы і літаратуры. Адсутнічае ў ім ідэя лёсу гэтай зямлі, канцэпцыя яе разьвіцьця, што і прадрашае аб ягоным вяскова-самадзейным характары. Называюць яны сябе украінцамі паўночнага Падляшша, г. зн. ад разлогаў Буга да Нарвы і Нараўкі, апошняя мяжа Вялікага княства Літоўскага. У сваім сялянскім думаньні не выйшлі на ўзровень нацыянальнага, хоць і прапагандуюць украінскую сьвядомасьць. Гэты парадокс тлумачыцца ня столькі іх невысокай інтэлектуальнасьцю, колькі аддаленай экзатычнасьцю самое Ўкраіны. Калі, вось, Беларусь знаходзіцца поруч і яе праблемы маюць сувязь з тутэйшымі.

У будучым спомненая ідэя таксама немагчымая ва ўкраінскім варыянце. Даволі глянуць на мапу, каб зразумець, чаму. Паўночнае Падляшша ня мае адміністрацыйна-палітычнага сутыку з Украінскай Дзяржаваю. Уяўляе сабою энкляў, адрэзаны тэрыторыяй Беларусі і Польшчы. Гэта выспа, востраў. А тое, што ў тым заходнепалескім энкляве між Бугам і Нарваю маем дачыненьне з пераходнымі дыялектамі ад украінска-беларускіх да беларуска-украінскіх ёсьць чымсьці другарадным. Звычайны этнічны працяг Берасьцейшчыны. Мала што з Украіны да нас сюды даходзіць.

На гэтым прыбеларускім востраве наглядаецца дзяцінная спроба пашырэньня ўкраінства на падставе моўнага прынцыпу. Пры чым ва ўмовах адсутнасьці якіх-колечы істотных традыцыяў у тым накірунку, неяк жывых у людской памяці (цалкам дамінуюць беларускія гістарычныя знакі тыпу Грамада або і КПЗБ). Моцны ўкраінскі рух на даваенных заходніх рубяжах не выходзіў за Холмшчыну, натыкаючыся на даўно паланізаваную паласу паўднёвага Падляшша, што за Бугам ад нас. Пры нагодзе: з тых-жа вакольляў, з уніяцкай некалі Корніцы выводзіўся Мікола Янчук, адзін з першых прафэсараў Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. З Такароў — Усевалад Ігнатоўскі, адзін з найпершых будаўнікоў беларускай дзяржаўнасьці як нацыянал-камуніст, затым аніматар Беларускай Акадэміі Навук, (пакончыўшы самагубствам у сталінскі тэрор). Мясцовыя беларускія карані сягаюць углыб, у злом васемнаццатага і дзевятнаццатага стагодзьдзяў, да постаці Міхала Баброўскага з забугскай Волькі (Выганоўскай?) як аднаго з заснавальнікаў ідэі Беларускага Народу і канцэпцыі Вялікага княства Літоўскага Беларускага Народу, якой пацікавіўся быў імпэратар Аляксандар І.

Гаворка пра ўсё тое не таму, каб камусьці надакучыць. Добры тут момант, каб паўтарыць вядомую ісьціну, што нацыя ўзьнікае не ў выніку якойсьці аднае характэрнае рысы, але цэлага комплексу ўмоў. Агульна кажучы: у выніку асобага, значыць і спэцыфічнага л ё с у. Прыкладаў на такую акалічнасьць процьма — чатырохмоўныя Швайцарцы, адзінамоўныя Сэрбы, Харваты і Чарнагорцы, двухмоўныя Бэльгійцы; пакідаючы па-за ўвагаю абедзьве Амэрыкі etc.

"Нашы Ўкраінцы" любяць паказваць "карту белорусского племени", апрацаваную некалі Яфімам Карскім, паводле якое "малороссийское наречье" фактычна даходзіць да падбеластоцкай лініі рэчкі Нарва. Няхай і так будзе, бо гэта без аніякага грамадзка-палітычнага значэньня. Так сказаць: Беларусам украінскай мовы ні трохі не перашкаджае тое пасылаць свае дзеці на навуку беларускае мовы, чытаць беларускія друкі, змагацца за беларускія — а не ўкраінскія — нацыянальныя інтарэсы; інтэлігентныя асобы карыстаюцца культурнай беларускай моваю. І чуць ня хочуць, што яны патэнцыйныя Ўкраінцы. Да Беларусі-ж рукою падаць, а дзе тая Ўкраіна!

Зрэшты, украінства ў Беластоцкім Краі выклікана штучна прафэсарамі-ўкраінцамі ў люблінскім і кракаўскім унівэрсытэтах, да якіх трапілі адгэтуль некаторыя студэнты-філёлягі. Чалавек дзесяць. Ніхто іх за гэта не зьбіраецца душыць, вольнаму воля, шалёнаму поле... Калі-б так здарылася векам раней, у росквіт аграрнай цывілізацыі шматлюднай вёскі, дык, магчыма, мелі-б мы сёньня ўкраінскую народную тэрыторыю між Бугам і Нарваю... Селянін заўсёды жыў аўтаномна і ніколі не пачуваўся да цеснай еднасьці з афіцыёзам; гэта ён этнас, ня горад-места. Яшчэ ад Вавілёну горад не іначай як касмапалітычны. У Беластоку: а будзь ты сабе кім хочаш, нікога ты завельмі не цікавіш, хлеб здабываць і так мусіш па-польску. У месьце ты ананім; у вёсцы абавязкова з імем, мэтрыкай.

Цяперашнім часам іншы сьвет, цывілізацыю хлява і поля зьмяніла цывілізацыя супэртэхналёгіі і лесу. Вёска пайшла ў места, зямля перастала быць сьвятасьцю. Усё тавар, усюды грошы. Не мэтафізыка, а бездухоўная вытворчасьць, прадукцыя. Не сакральная натруджанасьць, але інтэнсіўная праца і адпачынак. Жніўныя сьпевы на камбайне пагражалі-б катастрофаю. Лірычны казак ужо не рамантычны малайчына, але бандыт, рабаўнік, гультай з шабляю, гвалтаўнік чужых бабаў.

Прынцыповае пытаньне: каго гэтыя "нашы ўкраінцы" намераны парабіць украінцамі? Сельскіх старых у міжгародні бязьлюдзьдзі? Вясковы настаўнік — стагодзьдзем раней "сельский учитель" — адыйшоў у гісторыю; паза горадам няма каго вучыць; не пэнсіянеры-ж нараджаюць. На дзесяць маладых фэрмэраў выпадае адна дзяўчына, тая, якая ня здолела шмыгануць на моднастройныя тратуары. Цікава, што жаночы род больш шукае лёгкахлебнасьці, сытнага замужжа. Інстынкт гнязда? — нарадзіць, накарміць, апрануць, выхаваць, даць пэрспэктыву. Падобны заняпад вёскі як постфэўдальнай структуры, прыкладам, у Францыі напрыканцы яшчэ дзевятнаццатага ст. выклікаў дэмаграфічную анамалію ў мэгаполісах; у Парыжы выпала амаль паўтары паненкі на аднаго кавалера. Вядома, набылі папулярнасьці разводы: статыстычны француз жэніцца двойчы разы, гадуе адно-двое дзяцей. Лік насельніцтва не павялічваецца. Дзеля простых паслуг выкарыстоўваецца эмігранцкую басоту з былых калёніяў.

Чамусьці не заўважаем, што паняцьце этнічных межаў стаецца анахранізмам. Абсягі нацыі пачынаюць вызначаць гарады і палітычныя мапы. На ўсход ад Беластоку дзяржаўная мяжа з Беларусяй на саракавым кілямэтры ўсё лясоў ды дзе-ні дзе зарастаючых бярозкамі вёсак, існуючых пакуль што на турыстычных картах, з даўгавечнымі ў іх бабулькамі прысеўшымі пад паваленымі платамі ў гушчавінах бэзу ў некалі дзявочых агародчыках.

"Нашы ўкраінцы" тым часам парасьсядаліся на пасадах, утвораных ім у рамках нацыянальнай палітыкі Польскай дзяржавы, і як-бы аціхлі задаволеныя. Скутак ад іхнай акцыі прыблізна такі, як ад нашумеўшага на Палесьсі ўтварэньня *палескай* нацыі.

Праміне два-тры пакаленьні і будзе ў нас тое, што на Захадзе: пару працэнтаў землеробаў-фабрыкантаў збожжа ды мяса і пад сто працэнтаў гарадзкога-мяшчанскага натоўпу, пульсуючага ў артэрыях камунальнага арганізму. Эпоха этнічных нацыяў аганізуе разам з сялянствам. Насоўваецца эпоха нацыянальных дзяржаваў з палітычнымі нацыямі.

У такім гістарычным кантэксьце т. зв. украінскі рух у Беластоцкім краі выклікае ўсяго лябараторную цікавасьць. Не да канца яснае, з кім маем дачыненьне — са шчырымі Украінцамі, ці з "прафэсійнымі ўкраінцамі", што жывуць з украінства?

********************************************

**Кіраўнік выбарчага штабу Ўладзімера Ганчарыка Валянціна Палевікова заявіла, што афіцыйныя ўлады праслухоўваюць тэлефонныя размовы чальцоў каманды адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі. Паводле ейных словаў, спэцслужбы ўсталявалі прыстасаваньні для праслухоўваньня ў будынку Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай, дзе разьмешчаны штаб спадара Ганчарыка. У якасьці доказу спадарыня Палевікова прадэманстравала "жучок", знойдзены ў адным з кабінэтаў.**

# ДЗЯРЖАВА СУПРАЦЬ НАЦЫІ
## 5 І 6 ЛІПЕНЯ Ў МІНСКУ ПРАЙШОЎ ТРЭЦІ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

***Як і раней, прэзідэнт Лукашэнка паставіўся да нацыянальнага форуму, як кепскі айчым да народнага сына. Ведаючы, што большасьць беларускіх дыяспараў за мяжой выступаюць за сапраўды незалежную і дэмакратычную Беларусь, уладамі было зроблена ўсё, каб спляжыць правядзеньне зьезду. Намесьнік старшыні Дзяржкамітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў Яновіч выступіў ў газеце «Голас радзімы» з рэзкай крытыкай Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», абвінаваціўшы арганізацыю за нібыта жорсткую апазіцыйнасьць, парэкамендаваўшы беларускім замежнікам ня ехаць на зьезд, які, маўляў, пераўтворыцца ў палітычную акцыю «нянашых» беларусаў-апазіцыянераў.***

***Аналагічна ставіліся да дэлегатаў і беларускія амбасады за мяжой. Такім чынам, у чарговы раз былі парушаныя ня проста правы чалавека, а правы нацыі — васьмі мільёнаў беларусаў метраполіі і каля трох мільёнаў беларусаў замежжа. Але тым ня менш зьезд адбыўся... На пытаньні карэспандэнта "ПіВ" адказвае Радзім ГАРЭЦКІ, навуковец і дзеяч культуры, які ў якасьці старшыні «Бацькаўшчыны» і ладзіў Трэці зьезд беларусаў сьвету.***



***— Радзім Гаўрылавіч, згуртаваньне дзейнічае з 1990-га году. Усьлед за Васілём Быкавым вы кіравалі ім напрацягу двух тэрмінаў. У чым мэта «Бацькаўшчыны»?***

— У адраджэньні сапраўднай Беларусі, у захаваньні нашай культуры і мовы, у згуртаваньні беларусаў пад сьцягам нацыянальнай ідэі – ідэі, пры якой беларус не адчуваў бы сябе выгнаньнікам на роднай зямлі, а землякам-замежнікам не было б сорамна за бясспраўную ды ўкленчаную радзіму. Ну ніяк не атрымліваецца ў нас адчуць сябе гаспадарамі ў роднай хаце. Не даюць, замінаюць на дзяржаўным узроўні. У поўнай ізаляцыі ад дзяржавы жывуць і дыяспары. Больш за тое, людзей стравліваюць паміж сабой, падзяляюць на «зялёна-чырвоных» і «бел-чырвона-белых». Таму абываталь і пераканаңы, што на так званым Другім Усебеларускім сходзе, які Лукашэнка правёў у траўні, зьбіраліся сапраўдныя патрыёты, а на Трэцім зьезьдзе беларусаў сьвету — толькі здраднікі, у тым ліку Ніл Гілевіч, Янка Брыль, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш, Станіслаў Шушкевіч... Улады баяцца ўсяго нацыянальнага, цураюцца радзімы, ім выгадна, каб "ціхая грамадзянская вайна" ішла на гэтай зямлі акурат да прэзідэнцкіх выбараў. Нашае згуртаваньне імкнецца давесьці грамадзтву адваротнае: шлях да незалежнай і заможнай Беларусі – у згодзе, узаемаразуменьні, у нацыянальным самаўсьведамленьні. Мы — беларусы, і павінны гэтым ганарыцца. Няхай мы і ня лепшыя за іншых, але ж і ня горшыя. А таму павінны адбудоўваць свой дом, сваю нацыянальную палітыку. Так, "Бацькаўшчына" — грамадская арганізацыя, якой нібыта не да твару займацца палітыкай. Але (нашая спрадвечная бяда!) пытаньні культуры ды мовы заўжды былі на Беларусі пытаньнямі палітычнымі. Прайсьці ўзбоч іх мы проста ня маем права...

***— Вернемся да справаў сёньняшніх і больш канкрэтных. Зьезд праходзіў не бяз пэўнага напружаньня. У чым выражалася супрацьстаяньне яму на дзяржаўным узроўні?***

— Задоўга да пачатку зьезду, ведаючы, што ўдзельнікаў будзе шмат (некалькі сотняў дэлегатаў, госьці, журналісты, проста жадаючыя), мы прасілі Мінгарвыканкам, каб нам прадаставілі канцэртную залу "Мінск", Палац культуры чыгуначнікаў ці Дом літаратара. Гарвыканкам катэгарычна адмовіў. Дзесьці за тыдзень да зьезду ўрэшце далі згоду на правядзеньне зьезду ў Доме культуры тонкасуконнага камбінату. Зала там вялікая — мы пагадзіліся, надрукавалі запрашальнікі з адпаведным адрасам. Раптам тэлефануюць з Камітэту па рэлігіях: вас запрашае на размову намесьнік прэм'ер-міністра Дзямчук, каб вырашыць пытаньне з правядзеньнем зьезду і ў тым ліку канчаткова вызначыцца з месцам яго правядзеньня. Падчас гэтай сустрэчы нам прапанавалі Дом літаратара. Мы адмовіліся: занадта малая там зала, дый запрашэньні ўжо разасланыя... "Калі так, выбірайце самі...", — міласьціва дазволіў Дзямчук. А ўвечары чарговы катэгарычны загад Мінгарвыканкаму: "Толькі Дом літаратара!" У выніку гэтай незразумелай мітусьні ў зьезьдзе бралі ўдзел толькі больш за сотню дэлегатаў і прыкладна столькі ж — гасьцей. Ня ўсе жадаючыя змаглі прыняць удзел у зьезьдзе... Вельмі характэрная для ўладаў тактыка: сутаргавая зьмена рашэньняў, калі справа тычыцца "апазіцыянераў". Ну ня ведаюць ўлады, што з гэтымі "абрыдлымі беларусамі" ўжо і рабіць... Толькі на другі дзень зьезду нібыта схамянуліся чыноўнікі, раптам успомнілі пра нас дзяржаўныя газеты, тэлебачаньне. А Яновіч зачытаў удзельнікам зьезду прывітаньне Лукашэнкі, які запэўніў, што хутка пройдзе Кангрэс беларусаў сьвету з сапраўды дзейснай падтрымкай на дзяржаўным узроўні. Гучала гэта, як зьдзек. Зноў абяцаньні, зноў нейкія альтэрнатыўныя сходы і кангрэсы...

***— Дэлегат зьезду Алег Рудакоў, кіраўнік Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага распавёў, што лучнасьці ўнутры беларускай дыяспары ў Расіі няма. Той, хто за Лукашэнку, — нейкім чынам амбасадамі падтрымліваецца, хто супраць, — выжывае сам.***

— Так, беларускія суполкі краінаў СНД разьбітыя на дзьве часткі. Але віна ў гэтым — на сумленьні беларускіх уладаў. Ганьба! Іркуцкая суполка з бел-чырвона-белым сьцягам і «Пагоняй» на гербе — адна з самых актыўных і дзейсных. У Іркуцкай вобласьці жыве 50 тысячаў беларусаў. Маюць газету, фальклорныя гурты. Унукі і праўнукі нашых перасяленцаў вывучаюць гісторыю Беларусі, яе мову. А прыязджаюць у Мінск і ня чуюць тут ні слова па-беларуску, на ўласныя вочы пераконваюцца, што няма на Беларусі нацыянальнай палітыкі, а дзяржава не зацікаўленая, каб яе дыяспары годна прадстаўлялі беларускія інтарэсы за мяжой. Гэтых беларускіх інтарэсаў у дзяржавы проста няма! Нейкае антычалавечае вар'яцтва на ўрадавым узроўні!

Зусім іншая сітуацыя ў дыяспарах далёкага замежжа. Хоць і да іх нашая ўлада ставіцца накшталт абыякавай мачахі, але гэта старая беларуская эміграцыя, незаідэалагізаваная, не савецкая, зьнітаваная трывалымі нацыянальнымі традыцыямі. Іншым разам здаецца, што там беларускага болей, чымсьці ў нас. З гэтымі дыяспарамі лічацца сенатары і прэзідэнты. Да прыкладу, на Дзень волі, 25 сакавіка, у Нью-Ёрку, Вашынгтоне, Клііўлендзе, Таронта мэры віншуюць беларусаў, на мэрыях лунаюць бел-чырвона-белыя сьцягі. Тамтэйшых беларусаў падтрымлівае царква, па радыё і тэлебачаньні гучыць беларуская мова. А ў Маскве і па сёньня няма беларускага культурна-асьветнага цэнтру, беларускай школы. Як Лукашэнка ставіцца да суайчыньнікаў за мяжой, так да іх ставяцца і мясцовыя ўлады. Вось вам і інтэграцыя! Урады Польшчы ці, скажам, Ізраілю гарой стаяць за сваіх землякоў за мяжой, падтрымліваюць іх і маральна, і матэрыяльна. А нашае Міністэрства замежных справаў нават і пальцам не павархунула, каб паклапаціцца аб ільготных візах для дэлегатаў зьезду. У 93-ім зьвярталіся ў беларускую амбасаду ў Расіі, каб паспрыялі дыпламаты адкрыць у Маскве (там жа сто тысячаў беларусаў жыве!) ці школку нацыянальную, ці курсы вячэрнія для дзетак. Амбасада доўга маўчала. А потым з лёгкім сэрцам дала адпіску: маўляў, няма сэнсу хвалявацца, бо заявак на навучаньне беларускіх дзяцей у Маскве ад іх бацькоў не паступала. "Хлусьня!" — кажуць маскоўскія беларусы. Гэтая праблема і на апошнім зьезьдзе ўздымалася. А справа з месца не скранаецца. Беларускія чыноўнікі — спрэс савецкія людзі. Ніякай ініцыятывы, сьляпая вера ў таго, хто вышэй па пасадзе. Рабства, халуйства і страх згубіць месца каля кармушкі – у крыві. І беларускага яны цураюцца толькі з-за таго, што цураецца яго Лукашэнка. Так што няма нічога дзіўнага, што беларускі ўрад на праблемы дыяспараў заплюшчвае вочы: маўляў, чым менш беларусаў тым лепш. Мы хутка і на ўласнай зямлі пераўтворымся ў нацменшасьць! У беларускім доме не хапае месца для беларусаў!..

***— На зьезьдзе была абмеркаваная і прынятая праграма дзеяньняў па кансалідацыі і дапамозе беларускай замежнай дыяспары пад назвай "Сусьветная беларуская супольнасьць у XXI стагодзьдзі." Праграма разьлічаная на час да 2005 году...***

— У гэтай праграме мы не маглі не адзначыць, што на пачатку новага тысячагодзьдзя беларуская нацыя апынулася на парозе фізічнага і духоўнага зьнішчэньня. Сьмяротнасьць на Беларусі перавышае нараджальнасьць. У занядбаным стане культура, мова, эканоміка, палітыка. Да духоўнай і фізічнай нішчымніцы далучыліся наступствы чарнобыльскай бяды. Павялічваюцца маштабы эміграцыі беларусаў. У тым ліку і па палітычных прычынах. У праграме мы ў чарговы раз даводзім, што пытаньні разьвіцьця ўзаемаадносінаў і дапамогі беларускай дыяспары ня сталі прыкметай зьнешняй палітыкі Беларусі. Ня выкананая дзяржаўная праграма "Беларусы ў сьвеце", распрацаваная Акадэміяй навук, зацьверджаная нашым Саўмінам яшчэ ў 1993 годзе і ўхваленая дэлегатамі Першага зьезду беларусаў сьвету. Зрэшты, нявыкананая і большасьць прапановаў, выкладзеных тады ж у "Звароце да Парламенту і Ураду РБ", якія потым, падчас Другога зьезду беларусаў сьвету ў 97-ым, быў дапоўнены.

***— Згуртаваньне прымае рашэньні, праграмы, б'ецца над іх выкананьнем, а Лукашэнка ўсе гэтыя захады проста ігнаруе. Праграма зьвернутая ў сьветлую "безлукашэнкаўскую" будучыню?***

— Чаму ж? Кропля вады, як вядома, і камень точыць. Сёе-тое выконваецца. Хоць "Бацькаўшчына" недзяржаўная арганізацыя, таму ня мае права зарабляць нейкім чынам грошы і выкарыстоўваць іх на свае дабрачынныя мэты, але прапановы, просьбы, якія паступаюць ад суполак і дыяспары па меры магчымасьці выконваюцца. І нацыянальна-асьветныя цэнтры адкрываюцца. І Гайнаўскі музей працуе на Беласточчыне. Ідзе забесьпячэньне замежнікаў літаратурай. Згуртаваньне правяло тры міжнародныя канферэнцыі "Культура і адукацыя беларускага замежжа". Так, гэта кропля ў моры. І натуральна, што без узаемапаразуменьня з урадам нашы дэкларацыі аб дыяспарах, заявы аб падтрымцы беларускай незалежнасьці і мовы застаюцца непачутымі, незапатрабаванымі.

***— Міністр адукацыі Стражаў на сустрэчы з дэлегатамі Трэцяга зьезду беларусаў сьвету ў Саўміне, зазначыў жыцьцярадасна, што ніхто не замінае разьвіцьцю і распаўсюджваньню беларускай мовы, а 40 адсоткаў прадметаў у кожнай школе выкладаюцца па-беларуску (беларуская мова, літаратура, гісторыя, геаграфія Беларусі...). Зазначыў і амаль адразу ж быў абвергнуты прысутнымі педагогамі. Згодны з вамі цалкам, што хлусьня на дзяржаўным узроўні стала ў нас нормай. "Ніхто не замінае мове", а нашых літаратараў пасьля пісьменьніцкага зьезду арыштоўваюць толькі таму,***

***што яны размаўляюць у парку Горкага па-беларуску. Па словах міністра, усё з нацыянальнай адукацыяй цудоўна, але і па сёньня няма ў Мінску Нацыянальнага ўнівэрсітэту, а беларускія школы пералічыць можна па пальцах...***

— Ну, пра хлусьню і халуйства нашага чынавенства мы ўжо казалі. Але, зрэшты, нават не яно ўсё вырашае. Загаворыць новы прэзідэнт па-беларуску – усьлед за ім загаворыць і ўсё чынавенства (куды падзенуцца!). Пры Шушкевічу, напрыклад, на многіх нашых амбасадараў ды палітыкаў за мяжой нахваліцца не маглі. І па-беларуску яны размаўлялі, і інтарэсы нацыянальныя заўзята адстойвалі. Будзе палітыка (і зьнешняя, і ўнутраная) нацыянальнай — і Нацыянальны ўніверсітэт увобмірг зьявіцца, і беларускія школы, і слова “нацыянальны” ня будзе сінонімам слову “апазіцыйны”. А пакуль мы маем урадавую палітыку, у якой дзяржаўнае ніяк не спалучаецца з нацыянальным.

А наконт саўмінаўскай сустрэчы... Мы самі, яшчэ ў студзені, рыхтуючыся да зьезду, прапанавалі ўладам правесьці яе з дэлегатамі. Занадта шмат накапілася пытаньняў у прадстаўнікоў замежных суполак да беларускага чынавенства. Але, наколькі ведаю, сустрэча з міністрамі была не надта канструктыўнай. Дзямчук, сутыкнуўшыся з лавінай праблемаў (адсутнасьць ільготных візаў для дэлегатаў-суайчыньнікаў, цяжкасьці з падпіскай на беларускія выданьні за мяжой...), нічога канкрэтнага не прапаноўваў і не абяцаў. Спаслаўшыся толькі на маючы хутка адбыцца Кангрэс беларусаў, які, маўляў, усё расставіць па месцах. Як кажуць, дай Бог нашаму цяляці...

***— Трэці зьезд беларусаў сьвету прапанаваў стварыць ва ўрадзе Камітэт па справах беларускай дыяспары. Яго функцыі?***

— Праблемамі беларускіх замежнікаў займаецца цяпер урадавы Камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў. Як займаецца, можна меркаваць па публікацыі Яновіча ў “Голасе Радзімы”, якая шмат шкоды нарабіла нашаму зьезду. У адпаведнасьці з прызначэньнем гэты Камітэт павінен займацца нацменшасьцямі. Мо таму і займаецца беларусамі? Бо мы ў метраполіі адчуваем сябе горш за нацыянальныя меншасьці. Сёньняшні Камітэт падтрымліваe ня нас. Яму не падабаюцца нашыя мэты: захаваньне дзяржаўнай незалежнасьці і ўмацаваньне нацыянальнай культуры, эканомікі і палітыкі. Сёньняшнім дзяржаўным падразьдзяленьням не да гэтага. Хто зважае зараз на тую занядбалую эканоміку, калі ўсе намаганьні і час ідуць на брудныя антыбеларускія палітычныя гульні…

Камітэт па справах беларускай дыяспары павінен заняцца канкрэтнай справай – згуртаваньнем беларускай нацыі. Тут закранацца павінны ня толькі культурніцкія стасункі, але і эканоміка. Дыяспара блізкага і далёкага замежжа, годна прадстаўляючы за кардонам Бацькаўшчыну, — прамы масток для ўліцьця на Беларусь прыватных і дзяржаўных замежных інвестыцыяў. Гэта ж у беларускім характары — дзейная дапамога суайчыньніка суайчыньніку, прынцып высакароднай беларускай талакі. Але паспрабуйце давесьці гэта нашаму сёньняшняму ўраду!

***— Некалькі словаў пра кадравае пытаньне “Бацькаўшчыны”. Свае прэзідэнцкія паўнамоцтвы на зьезьдзе вы, наколькі ведаю, склалі па асабістым жаданьні?***

— Так. На гэтай пасадзе я ўжо два тэрміны – 8 гадоў. Дый інфаркт нядаўна перанёс. Зьезд вёў з бальнічным бюлетэнем. Але ж са складаньнем прэзідэнцкіх паўнамоцтваў ад справы не адышоў. Застаўся сябрам Управы Згуртаваньня “Бацькаўшчына”.

***— Прэзідэнтам арганізацыі стаў Анатоль Грыцкевіч. Вашы адносіны да гэтага чалавека?***

— Самыя цудоўныя. Доктар гістарычных навук, прафуа культуры. Адзін з лепшых сьпецыялістаў. Вельмі прынцыповы, прыстойны і сумленны чалавек паходжаньнем са старажытнай беларускай шляхты.

***— Што б пажадалі пераемніку?***

— Цярплівасьці і здароўя на гэтай пасадзе... Да Згуртаваньня дзяржава заўжды ставілася як да нейкай камерцыйнай арганізацыі. Маркуючы па памерах арэнднай платы за сядзібу “Бацькаўшчыны”, мы варочаем немаведама якімі грашыма. Але ж мы увогуле нічога не зарабляем. А хацелася б. Хаця б дзеля таго, каб выпускаць сваю газету. Гэта пры рэдактары Мацкевічу дзяржаўны “Голас Радзімы” быў больш-менш прагрэсіўным выданьнем. Цяпер гэтая газета выконвае ўрадавы заказ. Таму хацелася б мець сваё — вольнае і праўдзівае выданьне, якое б хоць нейкім чынам спаталяла тую інфармацыйную смагу, на якую так пакутуюць нашы дыяспары... Пажадаў бы новаму прэзідэнту Згуртаваньня беларусаў настойлівасьці і прынцыповасьці ў стасунках з беларускімі ўладамі, у адстойваньні сапраўды нацыянальных інтарэсаў.

***— Дзякуй за гутарку, Радзім Гаўрылавіч!***

Гутарыў Алесь ГАРКУН. (ПіВ)

**************************************************

# “ЧАГО ВАМ ХОЧАЦЦА, ПАНОВЕ?”

Зусім нядаўна ў Слоніме на вуліцы Брэсцкая з’явіўся новы праваслаўны прыход, навіна аб якім хутка абляцела горад. Незвычайнасцю ва ўсёй гэтай справе было тое, што прыход адразу набыў рысы беларускай супольнасці. Яго заснавальнік і настаяцель айцец Іаан Майсейчык актывізаваў дзейнасць грамады ў напрамку стварэння вучэльні для дзяцей і моладзі, адраджэння беларускай спадчыны і пашырэння беларушчыны сярод вернікаў.

Пропаведзь і духоўныя настаўленні ў прыходзе можна было пачуць амаль выключна па-беларуску, што абвяргала няслушнае сцвярджэнне, быццам беларуская мова непрыдатная для ўзвышаных рэчаў. Менавіта вышыня і прыгажосць слова, ахвярная адданасць справе і шчырая дабрыня атмасферы прыцягнулі ў новую царкву мноства інтэлігенцыі, што дало ёй назву “Настаўніцкай”.

Горад узбагаціўся нядзельнай школкай і сястрынствам міласэрнасці. На прыход звярнула ўвагу Беларускае Моладзевае Брацтва: падчас паломніцтва па Заходняй Беларусі. Вялікая група моладзі малілася тут за беларускі народ, дзялілася радасцю жыцця ў веры, досведам і праблемамі беларускай рэчаіснасці. Прыход распаўсюдзіў сваю апеку над кадэцкімі класамі СШ № 9, а таксама над хворымі і сіротамі, дзякуючы чаму па праву стаў прытулкам для старых і маладых, хворых і здаровых, шчаслівых і нешчаслівых…

І можна было б радавацца і карыстаць з таго, што нашы гараджане атрымалі магчымасць не толькі спасцігаць таямніцы Божыя, але вяртацца да сваіх каранёў, піць жыватворную вільгаць з крыніцы айчыннай гісторыі, прывучацца шанаваць свой край і матчыну мову, але… Аказалася, што гэта радасць не для ўсіх.

Аднойчы дзверы царквы адчыніліся, і ва ўтульную богаслужбовую залу ўвайшоў новы настаяцель айцец У. Камароў. Па-гаспадарску ён ададраў са сцяны словы песняра Беларусі Я. Купалы:

Чаго вам хочацца, панове?  
Які вас выклікаў прымус  
Забіць трывогу аб той мове,  
Якой азваўся Беларус?  
Чаму вам дзіка яго мова?  
Паверце, вашай ён не ўкраў,  
А толькі ўспомніў  
сваё слова,  
З якім радзіўся, падрастаў.

“Не положено”, – коратка адрэзаў ён.

Далей пачалася прамыўка мазгоў, накшталт таго, што беларуская мова вядзе да расколу, што Беларусь – неаддзельная частка Расіі, што асноўная частка насельніцтва – рускія і таму не разумеюць (!) беларускай мовы, а Я. Купала – “Вообще неизвестно кто”.

На айца Іаана паліліся рэкі бруду, як на “неблаганадзейнага”. Стала зразумелым, што беларускасць, незалежніцкая пазіцыя дзяржаўнага ладу, прыродная беларуская талерантнасць, гістарычная і літаратурная спадчына беларускага народа з’яўляюцца “прыліпаламі” у царкоўным асяроддзі. Русіфікацыя і палітычныя (прыкрытыя ворсам духоўнасці) інтрыгі на карысць брацкай Расіі – гэта адна з галоўных мэтаў дзейнасці Рускай царквы. У выніку прыход быў пазбаўлены свайго настаяцеля (Іаана саслалі ў Шылавічы). А вернікі, расцярушаныя такім прыніжэннем, што ім цяжка ўявіць пра “царкоўны” характар гэтых падзей. Але на гэтым не ўсё. Разьюшаны “непакорствам” епіскап Гурый, а таксама яго “вернападданы” блага- чынны айцец Уладзімір Бобчык (Альбярцінская царква) развязалі страшэнны пераслед Іаана і яго бліжэйшага акружэння.

Сябра сям’і айцец Аляксандр Яваpаўскі быў выкліканы да епіскапа Гурыя, які сваім благаслаўленнем проста забараніў мець усялякія адносіны з айцом Іаанам, як езуітам, бэнээфаўцам і г.д. Паколькі сумленне айца Аляксандра не дазволіла яму паступіцца «дружбай, то гэта выклікала са свайго боку ўціск на яго. Пачалася санкцыянаваная зверху “карэспандэнцыя” паклёпаў і распаўсюджанне чутак пра недобра- сумленнасць айца Іаана і айца Аляксандра. Свайго апагея “кантроль за думамі” дасягнуў, калі айцец Уладзімір Бобчык пахваліўся сваімі сувязямі з КДБ і … праслухоўваннем кватэры.

Р’яны епіскап Гурый забыўся пра свой службовы стан, ні аднаго разу не прыняў былых прыхаджанаў, якія сэрцам і душой сталі на пошук справядлівасці. Ліст ад вернікаў, у якім праўдзіва распавядалася пра падзеі, ён назваў “оскорбительным”. Хіба можа праўда быць зневажальнай? Ці на хлусні і несправядлівасці дасягаюць царкоўных пасадаў?

Балюча казаць, што ў наш і без таго гаротны час, калі ашуканства апанавала амаль увесь свет, месца святое – Царква – апаганьваецца той жа няпраўдай. Пераслед, знявага, нецярпімасць, паклёпы і маральны ўціск – ці ж гэта тое, чым дыхае дух Божы, што жыве ў Царкве?..

Між тым усё гэта прымусіла айцоў Іаана і Аляксандра прасіць аб звальненні іх з прыходаў. Просьбы паспешліва былі задаволены. Амбіцыі епіскапа Гурыя і яго благачыннага, якія крывадушна прапаведуюць дараванне крыўдаў і любоў да ворагаў, рэалізаваліся.

Боль застаўся ў сэрцах шматлікіх вернікаў, якія не ў стане зразумець, як стала магчымым, што два адданыя Богу і людзям святары, поўныя маладосці, адукацыі і розуму, сталі ненавіснымі духоўным правадырам нашага народу. Як гэта нагадвае евангельскую гісторыю, калі фарысеі і кніжнікі з-за ганарыстасці страцілі духоўныя магчымасці адрозніваць дабро і зло і давялі яўрэйскі люд да адвяржэння Хрыста. Падобна на тое, што зло перамагло і тады, і цяпер.

Дакуль жа нам, беларусам, цярпець уладу хітрых баязліўцаў і верыць іх мудрагелістым заклікам адраджаць Расію, забываючыся пра свой край? Дакуль моўчкі будзем назіраць, як здзекуюцца і выганяюць беларускіх сыноў, неабыякавых да лёсу мінуўшчыны і будучыні Беларусі?

***Марыя Баброўская, “Газета Слонімская”.***

**************************************************

# Азэрбайджан перайшоў на лацінку

**Другога жнівеня азэрбайджанскі народ зрабіў істотны крок да Эўропы, перайшоўшы з кірыліцы на лацінскі алфабэт. Гэткім чынам закончылася 10-гадовая кампанія развітаньня з кірыліцай, уведзенай у канцы 30-х гадоў з мэтай збліжэньня з расейскай культурай.**

На працягу апошняга месяца ў краіне адбываецца замена шыльдаў, дарожных знакаў і вулічных назваў пасьля таго, як прэзыдэнт Гейдар Аліеў выдаў дэкрэт аб пераводзе ад першага жнівеня ўсяго афіцыйнага справаводзтва на лацінскі шрыфт. Доўгія стагодзьдзі азэрбайджанская мова ўжывала арабскі шрыфт, але неўзабаве пасьля далучэньня Азэрбайджану да СССР на пачатку 20-х гадоў арабскі шрыфт быў заменены на лацінку. Тая, першая лацінка мела за ўзор турэцкую лацінку, уведзеную неўзабаве перад тым таксама замест ара-біцы. Аднак у канцы 30-х гадоў шляхі гэтых блізкіх цюркскіх моваў разышліся: азэрбайджанская мова, як і ўсе астатнія мовы тагачаснага СССР, была гвалтам пераведзеная на кірыліцу. Пасьля абвяшчэньня неза-лежнасьці ў 1991 годзе ў краіне пачаўся рух за пераход на лацінку, прычым прыхільнікаў гэтага руху можна было знайсьці ў самых розных колах азэрбайджанскага грамадзтва. Зьмена шрыфту, на іхную думку, умацуе сувязі Азэрбайджану з Эўропай і спрычыніцца да мадэрнізацыі краіны. Яшчэ адна, менш афішаваная мэта рэформы - канчаткова вызваліцца з-пад расейскіх культурных уплываў. Аднак ня ўсе ў Азэрбайджане задаволеныя гэтымі радыкальнымі пераменамі. Найпрасьцей будзе школьнікам, якія вывучаюць лацінскі шрыфт ужо дзесяць гадоў. Цяжэй давядзецца тым, каму за 30 і хто атрымаў адукацыю за савецкім часам і можа чытаць на роднай мове толькі ў яе кірылічным варыянце. Найбольш занепакоеныя рэформай газэтныя выдаўцы, якія лічаць, што зьмены адбываюцца занадта хутка і гэта істотна адаб’ецца на газэтных накладах. Абсалютная большасьць чытачоў азэрбайджанскіх газэтаў - гэта ўжо немаладыя людзі, і шмат каму зь іх з прычыны шрыфту давядзецца адмовіцца ад сваіх чытацкіх звычак. Апрача таго, можа быць аслабленая і палітычная апазыцыя - бо менавіта газэты адыгрываюць важную ролю ў пашырэньні апазыцыйнай інфармацыі. Аднак сёньняшнія азэрбайджанскія падзеі не адзіныя і не ўнікальныя на постсавецкай прасторы. Гэткі самы пераход - з кірыліцы на лацінку - ужо адбыўся або адбываецца і ў іншых колішніх савецкіх рэспубліках, напрыклад, у Малдове або Ўзбэкістане. Ён пазначае сабою пачатак новай культурнай эпохі ў гісторыі народаў, у якіх палітычнае дамінаваньне Расеі мела істотны ўплыў на нацыянальную культуру. Вяртаньне да сябе бывае часам трагічна балючым.

**Сяргей Шупа**

**************************************************



## ВІНШУЕМ з 75-годзьдзем...

**Янка Запруднік (Вільчыцкі Сяргей) нарадзіўся 9-га жніўня 1926 г. у мястэчку Мір, Карэліцкага раёну. Гісторык, палітолаг, паэт, публіцыст. Скончыў Лювенскі ун-т (1954). Жыве ў ЗША. Жадаем моцнага здароўя, шчасьця і дабрабыту! "Б.Д."**



## ПАКАЗ ЭТНІЧНАЙ ВОПРАТКІ

9-га ліпеня 2001 г. у Чыкага адбыўся паказ этнічных касьцюмаў (fashion show). У гэтай імпрэзе бралі ўдзел ажно 50 розных нацыянальных групаў, у тым ліку і беларуская.

Беларускую грамаду рэпрэзэнтавалі — 13-ці гадовая Анна Васіленка і 14-ці гадовы Сяржук Гірэль ад Беларускае Праваслаўнае Парафіі сьв. Юрага ў Чыкага.



******************************



Спансараваў гэты паказ модаў Чыкагскі Аддзел па Культурных справах (Department of Cultural Affairs of the City of Chicago), а кіравала і арганізавала гэтую падзею спадарыня Роўз Фарына. Імпрэзу дбайна запісвалі ТУ кампаніі, а прысутная публіка бесперапынна зафіксоўвала ўсё фота-апаратамі. Варта падкрэсьліць, што вялікая падзяка належыць А. Васіленка і С. Гірэль за ўдалую рэпрэзэнтацыю нашай беларускай грамады ў Чыкага.

А ўвечары можна было пабачыць нашых маладых удзельнікаў на ТУ. Было паказана толькі 4 групы з 50-ці — амэрыканскія індыяны, беларусы, грэкі і аўстрыякі. Усе падзіўлялі нашых удзельнікаў за іх скромнасьць і прыгавство...

Вера Рамук, Чыкага.

На здымках: Анна Васіленка і Сяржук Гірэль падчас паказу...

## III-ці ТРЫЯЛЁГ БЕЛАРУСКІ...



З 27-га па 29-га ліпеня 2001 г. у Лапічах непадалёк Крынак прайшоў III-ці Беларускі Трыялёг — Беларусь - Скандынавія - Расея, арганізаваны аб'яднаньнем Villa Sokrates пад кіраўніцтвам і апекаю Спадара Сакрата Яновіча.

**На здымку: група ўдзельнікаў III-га Трыялёгу 2001 г. у Крынках, Беласточчына.**





Нядаўна ў Чыкага , ужо другі раз у адным месяцы, адбылася сустрэча з бардам, кампазытарам і паэтам Віктарам Шалкевічам з Горадні, Беларусь.

Спадар Віктар Шалкевіч даў на гэты раз невялікі канцэрт у Праваслаўнай Беларускай царкве сьв. Юр'я ў Чыкага.

**На здымку: Сп. В. Шалкевіч з групай прысутных на выступе.**

## НОВЫ ГРАФІК

### Беларускай Свабоды

**Ад панядзелку 6 жніўня 2001 г. штодзённы эфір Беларускай Службы Радыё Свабода павялічваецца з 4 да 8 гадзінаў.**

**Сьвежыя міжнародныя навіны, апэратыўныя паведамленьні зь Беларусі, рэгіянальныя рэпартажы, экспрэс-аналіз падзеяў дня — у рэжыме жывога эфіру — шэсьць гадзінаў запар увечары (ад $18^{00}$ да $24^{00}$) на кароткіх і сярэдніх хвалях.**

**Кожную раніцу ад 6 да 8 гадзіны — сьвежыя навіны ў жывым эфіры і паўтор галоўнага вечаровага выпуску праграмы.**

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Моцна просім не забывацца пераслаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты...

## *НАМ ПІШУЦЬ...*

### Прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі

Усім нам ведама, што ў Беларусі афіцыйныя ўлады паніжаюць усё беларускае ды агранічаюць свабоду... але гэта ня значыць, што беларусы мусяць паддавацца такому ганьбаваньню.

Дзеля нашай патомнасьці ды будучыні, мы сьведкі і адначасна ахвяры гэтай трагічнай для нас эпохі, ўважаем, што патрэбаю часу ёсьць выбраць новага прэзыдэнта, які павінен ўяўляць сабою ўсе пазытыўныя аспэкты беларускае нацыі.

Вельмі балюча, што ў Беларусі жывуць і дзейнічаюць нейкія асобы, якія непрыхільна ставяцца да захаваньня беларускасьці. Беларусы павінны гэта зразумець. Людзі ня могуць зыходзіць на бок з выбранай дарогі — змаганьня за незалежнасьць, свабоду і справядлівасьць. Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю. Меркаваць пра ліквідацыю нацыі — гэта агідная крымінальная злачыннасьць... Сп. Лукашэнка сам сябе дыскваліфікаваў, бо ён не будаваў беларускую дзяржаўнасьць, а стараўся яе ліквідаваць... Давяраць такому чалавеку няма сэнсу...

Я. Барысевіч, Аўстралія.